# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

—ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ—




№ 3
1925

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркомасьветы БССР.

Бел/836

# НАША ЧАРГОВАЯ ПРАЦА.

У папярэднім нумары мы гутарылі аб тым, як правесьці Ленінскі тыдзень. Мы ўпаміналі там аб сувязі піонэрскіх атрадаў з ячэйкамі ЛКСМБ і КП(б)Б. Намецілі сабе некалькі асноўных пунктаў, якія і разглядвалі ў атрадзе. Калі ўсю гэту працу мы выканалі, пойдзем далей. А можа якінебудзь атрад і не правёў тэй працы, якую мы сабе намецілі. Тады трэба ўспомніць яе і прарабіць. А цяпер будзем разглядваць нашы чарговыя пытаньні.

### З чаго пачаць працу.

У нас маецца шмат маладзенькіх атрадаў на вёсках. Атрады растуць з кожным днём. Але часта здараецца тое, што атрад залажыўся і ня ведае, як весьці працу. Гэты атрад наглядае за працаю комсамольскай ячэйкі. Праз некаторы час атрад пачынае праводзіць такія-ж сходы, якія праводзіць ячэйка. Гэтага дапушчаць нельга. У комсамольцаў жыцьцё і праца інакшае ад нашага. Мы—толькі малодшыя браты комсамольцаў.

Вось асноўныя моманты працы піонэратраду, з якіх трэба пачынаць працу.

Гутарка павадыра ў атрадзе, збор атраду, гутаркі павадыроў на зьвеньнях, гульні, фізкультура, замалёўкі розных цікавых рэчаў. Далей. Вывучваньне песень, экскурсыі, выпаўненьне заданьняў па зьвеньням.

Ува ўсёй гэтай працы павінна выяўляцца шырокая ініцыятыва піонэра. Мала таго, што нехта прачытаў, расказаў і—ўсё добра, гладка. Трэба самому прымаць удзел у вырашэньні кожнага пытаньня. Трэба сваім розумам пад кіраўніцтвам старэйшага разьвязваць усе задачы.

Піонэрскі атрад—гэта кузьня, адкуль выходзіць новы загартаваны фізычна і рэволюцыйна барацьбіт. У атрадзе мы вучымся. Але гэта ня ўсё. Мы вучымся і прывыкаем тут-жа да працы. Да тэй працы, якую мы будзем несьці,калі вырасьцем. Вясковыя піонэры ў сваіх атрадах павінны прывыкаць і да фізычнай працы. Шмат якую працу можна знайсьці для піонэраў улетку, увесну, увосень—можна знайсьці працу на полі, на агародзе, у садзе. Атрад павінен паклапаціцца і дастаць сабе агарод. Гэты агарод піонэры будуць самі засяваць, засаджваць і наагул выконваць усю працу ў агародзе. Важным будзе, калі для кіраўніцтва працаю, піонэры будуць клікаць да сябе агранома і настаўніка. Трэба практычна паказаць сваім бацькам, што атрад выхоўвае нас усебакова. Апрача гэтага піонэры могуць заняцца вырабам розных гаспадарчых рэчаў. Усё гэта можна рабіць без спэцыяльных майстэрняў. Скажам, зрабіць граблі, сплесьці кош ці што іншае.

Самым цікавым пытаньнем для атраду зьяўляецца шэфства. Вясковы атрад сам ня можа стала павесьці працу. Тут, бачыце, ёсьць шмат розных перашкод. Каб выйсьці з гэткага становішча у нас закладваюцца шэфствы гарадзкіх атрадаў з вясковымі. Гарадзкія атрады павінны дапамагаць вясковым чым толькі могуць. Скажам, гарадзкія могуць перадаваць вясковым вопыт сваёй працы, могуць выпісаць ім сваю часопісь, газэту і шмат чаго іншага. Трэба не забывацца гарадзкім атрадам аб вясковых. Праца гарадзкіх і вясковых атрадаў павінна быць сумесная.

### Яшчэ аб адным важным моманце.

Амаль усюдых у вясковых атрадах вядзецца праца не на роднай мове. Гэта вельмі балючае наша месца. Усе дзеці чуюць дома сваю родную мову, а ў атрадзе зусім другое. Трэба ў вясковых атрадах весьці ўсю працу на сваёй роднай мове. Трэба паставіць у атрадзе некалькі дакладаў аб нацыянальнай політыцы Савецкай улады.

На цяперашні раз будзе. Аб чарговых пытаньнях — у другім нумары. Бывайце!

Павадыр АЛЕСЬ.




## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на сваю часопісь

# „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“

**Кожны піонэрскі атрад, зьвяно, школа—выпісвае ня менш аднаго экзэмпляру.**

ПАДПІСКА.

| | |
|---|---|
| На год (12 нумароў) | 3 руб. 60 кап. |
| На 6 месяцаў (6 нумароў) | 1 руб. 80 кап. |
| На 3 месяцы (3 нумары) | — 90 кап. |

**Адін нумар каштуе ў прадажы 30 кап.**

**Грошы высылайце: Менск, Пляц Волі, Народны Камісарыят Асьветы.**

*Зьмена зьмену рыхтуе сабе:
Піонэр—комсамол—К. П. Б.*

*Да змаганьня за справу
працоуных, будзь гатоу!*




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ
БССР

РЭДАКЦЫЯ:
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы.

№ 3. ЛЮТЫ 1925 г.

Б.Ф. / 836

# ТВАРАМ ДА ВЁСКІ.

Ільліч першы заклікаў нас на змычку.

Замацоўвайце змычку гораду з вёскаю!

Шмат міліёнаў рабочых працуе на фабрыках і заводах.

Яшчэ больш міліёнаў сялян працуе на гаспадарцы.

Рабочыя і сяляне—браты. Браты па працы, браты па рэволюцыі.

Сумесна выступілі рабочыя й сяляне на бойку з буржуазіяй і панамі, сумесна пабудавалі яны Савецкую ўладу, сумесна абаранялі Савецкую ўладу ад ворагаў і сумесна перамаглі ворагаў.

Толькі дзякуючы моцнай сувязі рабочых і сялян, пад кіраўніцтвам компартыі і Леніна, замацаваліся першыя ў сьвеце Савецкія рэспублікі.

Змычка патрэбна была ў гады вайны, у гады барацьбы за рэволюцыю. Ня менш яна патрэбна і цяпер—у часе мірнага будаўніцтва.

Вёска наша цёмная, бедная і някультурная. Вёска імкнецца да ведаў, да шматпольля, да трактараў, да агульнай коопэрацыі. Бо толькі ўсё гэтае вывядзе вёску на сьветлы шлях комунізму.

Вёска ў гэтым чакае дапамогі з боку рабочых. Рабочыя больш аб'яднаны, у іх больш ведаў і ўменьня. Рабочым лягчэй з гэтымі ведамі будаваць новае жыцьцё. У руках рабочых вучэньне Леніна.

Ільліч першы заклікаў рабочых і сялян на змычку. За ім пашлі ўсе рабочыя й сяляне.

Мы дзеці рабочых і сялян павінны таксама прымаць удзел ва ўмацаваньні гэтай змычкі.

Задача піонэраў вёскі—весьці барацьбу з беднасьцю і цемраю селяніна. Але вясковыя піонэры ў гэтым ня могуць адны справіцца. Яны чакаюць на дапамогу гарадзкіх. Гарадзкія піонэры павінны ім дапамагчы ў гэтым.

Помніце законы піонэраў—заветы Леніна! Помніце, што піонэры павінны дапамагаць комуністам і комсамольцам у справе замацаваньня змычкі гораду з вёскаю.

Тварам да вёскі—на дапамогу ёй!.

Л. Буравін.




# Праца вясковага атраду.

Хто такія піонэры кожны ведае. Усе піонэры ведаюць, што яны комсамольская зьмена.

Піонэр ужо ў атрадзе з дапамогаю комсамольскай ячэйкі павінен рыхтаваць з сябе комсамольца.

Ул. І. Ленін, імя якога ўсе мы носім, у 1921 г. казаў комсамольцам:

„Мы хочам Расію з краіны жабрачай і ўбогай перавярнуць у краіну багатую. Трэба, каб комсамол сваю адукацыю (образование), сваё вучэньне і выхаваньне злучаў з працаю рабочых і сялян. Трэба, каб комсамол не запісваўся толькі ў школы і ня проста чытаў кніжкі, а чытаў іх для таго, каб лепей дапамагчы рабочаму й селяніну ў іх працы і жыцьці".—Вось завет Ільліча комсамольцам.

Піонэраў у той час яшчэ ня было. Але завет Леніна комсамольцам павінен быць заветам і для піонэраў.

Піонэрскі атрад павінен сваю працу зьвязаць з практычнымі вымаганьнямі жыцьця. Што гэта значыць? А гэта значыць тое, што атрад павінен прымаць удзел ува ўсёй працы, якая праводзіцца на вёсцы. Атрад павінен аказваць дапамогу партыі і комсамолу—выконваць завет Ільліча.

У гэтым артыкуле мы адзначым некаторыя больш важныя моманты працы піонэратраду на вёсцы.

## Піонэры ў хаце-чытальні.

Шмат працы тут знойдзецца для піонэраў.

У загадчыка чытальні працы аж лішне. Нам трэба яму дапамагчы. Бывае так, што піонэры часта мяшаюць працы ў хаце-чытальні. Яны бегаюць там, таўкуцца пад нагамі, крычаць, дурэюць. Гэтага не павінна быць. Трэба ўзяцца за працу. Трэба паказаць селяніну, што піонэры ня толькі могуць пець, маршыраваць, але й рабіць карысную для ўсіх справу.

## Чым могуць дапамагчы піонэры ў працы хатычытальні.

Глядзець за чыстатою хаты-чытальні. Калі ў хаце-чытальні брудна і нячыста, піонэры дапамогуць ахаяць яе, ачысьціць. Піонэры памогуць прынесьці дроў для апалу хаты-чытальні.

Старэйшыя піонэры па даручэньню загадчыка хаты-чытальні змогуць прачытаць для сялян газэту, кніжку.

Піонэры змогуць узяцца за падшыўку газэт, вырэзваць цікавыя заметкі для таго ці іншага кутка. Кніжкі ў хаце-чытальні бываюць у большай частцы не пераплеценыя. Піонэры змогуць узяцца за пераплёт кніжак. Піонэры дапамогуць абсталяваць клюб рознымі плякатамі, лёзунгамі. Тут-жа, на сьценах, піонэры вывесяць і свае піонэрскія лёзунгі ў насьценнай газэце. Або, скажам, адбываецца які небудзь вечар у хаце-чытальні—піонэры змогуць памагчы апавясьціць сялянству аб гэтым вечары. І адпаведна вечару абсталяваць памяшканьне.

Калі-ж у хаце-чытальні выдаецца насьценная газэта, піонэры прымаюць у ёй самы чынны ўдзел. У гэтай-жа газэце піонэры організуюць свой куток.

Калі ў піонэраў няма свайго клюбу і няма кутка ў комсамольскім клюбе, трэба, каб у хаце-чытальні адвялі ім піонэрскі куток. У сваім кутку піонэры змогуць весьці свае заняткі, але, каб не перашкаджаць другім.

Трэба сяды-тады організоўваць вечары ў хаце-чытальні. Вечары трэба разьлічваць на ўсіх сялянскіх дзяцей, зацікавіць іх піонэрскай працай.

Працу ў хаце-чытальні павінны несьці зьвёны па чарзе. Трэба заранеі дагаварыцца з загадчыкам хаты-чытальні, як і калі працаваць у хаце-чытальні.

На агульным зборы атраду загадчык хаты-чытальні павінен расказаць аб працы хаты-чытальні і ролі яе на вёсцы.

## Школа.

Перш за ўсё піонэр у школе павінен быць прыкладным для ўсіх іншых школьнікаў. Піонэр павінен акуратна выконваць усе заданьні настаўніка. Піонэр павінен шанаваць рэчы школьнай гаспадаркі і свае рэчы. У школе ёсьць многа дзяцей, якія адстаюць ад усіх у навучаньні. Піонэры павінны організоўваць для такіх вучняў заняткі і дапамагаць ім даганяць усіх школьнікаў.

Піонэр глядзіць за чыстатою ў школе. Сам паказвае прыклад чыстаты. Трэба глядзець за тым, каб не рабілі вучні пылу ў клясе. А калі ёсьць пыл,

то не чакаць на стоража, а самім адчыняць фортачкі, пырскаць вадою падлогу, вымятаць клясу і г. д.

Піонэры наглядаюць і за тым, каб не наносілі вучні гразі за нагамі ў клясу. Калі няма на ганку аб што выціраць ногі, піонэры зробяць самі пляцёнку з саломы.

Піонэры не павінны вылучацца ад усіх вучняў школы, не павінны ганарыцца тым, што яны піонэры. З усімі школьнікамі піонэры сябруюць, асабліва з бяднейшымі. Бяднейшым школьнікам піонэры стараюцца дапамагчы чым толькі можна, як, напр., гуртам у складчыну купіць ім сшыткі, кніжкі. Здараецца часта, што ў вучня няма лапцей і ён з-за гэтага ня ходзіць у школу. Піонэры тут таксама прыдуць на дапамогу. Яны зьбяруцца і сплятуць лапці. Ува ўсю гэтую працу піонэры стараюцца ўцягнуць і ўсіх іншых школьнікаў.

Праз комітэт узаемадапамогі піонэры стараюцца дапамагчы дзецям бяднейшага сялянства, каб яны змаглі хадзіць у школу.

Піонэры праводзяць вялікую працу ўва ўсіх гурткох пры школе, у насьценнай газэце.

Разам з усімі школьнікамі піонэры наладжваюць новыя гульні ў школе і пяюць новыя песьні.

У рэволюцыйнае сьвята піонэры разам з настаўнікам наладжваюць вечар, гутарку аб гэтым сьвяце. У гэты дзень піонэры стараюцца чысьцей адзецца. Рэволюцыйнае сьвята—для піонэраў роднае сьвята.

У рэволюцыйнае сьвята наладжваюць з настаўнікам што-небудзь цікавае: песьні пяюць, малююць, або на экскурсію йдуць.

Усялякія дрэнныя адносіны настаўніка да вучняў павінны быць абгаворany з павадыром на сходзе атраду.

Часта піонэры адстаюць у навучаньні ад другіх вучняў таму, што шмат часу бярэ атрад.

Гэтага быць не павінна. Трэба паставіць справу так, каб з-за працы ў атрадзе ня кульгала праца ў школе.

# Грамадзянская праца.

Ува ўсёй грамадзянскай працы, якая праводзіцца на вёсцы, піонэры могуць таксама прыняць удзел. Піонэры могуць выконваць частку лягчэйшай працы.

Грамадзянскае працы на вёсцы шмат: пабудаваць грэблі, паправіць масты, пракапаць канавы, пабудаваць сьвіран для ссыпкі, збожжа—хлеба комітэту ўзаемадапамогі і г. д. Атрад у гэтай працы сумесна з комсамольцамі можа шмат дапамагчы сялянам.

Апрача гэтае працы ёсць яшчэ шмат і іншай. Піонэры могуць узяцца і пракапаць канаву ля калодзежа, каб сьцякала ад яго ўсякая нячыстая вада. Бо гэтая вада пападае ў калодзеж у чыстаю ваду, якую мы потым п'ём.

Піонэры могуць дапамагчы беднай удаве ў працы. Могуць гуртам абгарадзіць надворак удавы, абкапаць прызьбы і прывесьці іх у толк, дапамагчы ёй насеч дроў і інш.

Піонэры таксама могуць дапамагчы і сям'і чырвонаармейца, дзе няма каму працаваць. Гэтым самым піонэры будуць дапамагаць комітэту ўзаемадапамогі.

Часта здараюцца ў вёсцы пажары. Пагарэльцы астаюцца бяз куска хлеба. Піонэры і тут гатовы. Піонэры дапамогуць комітэту ўзаемадапамогі правесьці збор на карысьць пагарэльцаў.

Усе гэтыя задачы выконваць ня так цяжка. Піонэры іх выканаюць Але ўсюды ў грамадзянскай працы піонэрам трэба зьвязацца з мясцовымі грамадзянскімі організацыямі і ўстановамі.

### Комсамольскі клюб.

Тут таксама піонэры змогуць прынесьці вялікую карысьць. У клюбе піонэры організуюць свой піонэрскі куток. У сваім кутку піонэры зьмесьцяць свае плякаты, лёзунгі, законы і звычаі. Павесяць таксама на сьцяне сьпіс свайго атраду.

Піонэры праводзяць дэяжурствы ў клюбе, глядзяць за чыстатою клюбу і дапамагаюць прыбраць клюб.

### Дапамога ячэйцы комсамолу.

Ячэйка праводзіць розную працу на вёсцы. Сярод кучы гэтай працы ёсьць такая праца, якую могуць дапамагаць праводзіць і піонэры. Скажам, ячэйка праводзіць кампанію якую-небудзь, або папраўляе масты. Ячэйка рыхтуецца да якога небудзь сьвята. Патрэбна прыбраць клюб. Ува ўсім гэтым піонэры могуць дапамагчы ячэйцы.

Аб усіх другіх момантах працы вясковага атраду напішам у чарговым нумары.

**М. Лабадаеў.**

**Піонэрскі атрад выхоўвае сьвядомых грамадзянскіх працаўнікоў.**



НА ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПРАЦЫ.



# ВЫПІСАЛІ

**(Апавяданьне).**

У невялічкай хатцы Агацінага Цупрука зьбіраўся атрад, Адно за другім убягалі дзеці. Шум нарастаў і нарастаў.

— Вось і да дзядзькі Цупрука прышла чарга—жартавалі некаторыя ўходзячы. Другія проста, каб зьвярнуць на сябе ўвагу моцна бразгалі клямкаю. Або ў дадатак кашлялі ці што іншае.

Дзяўчаткі-ж зьвярталіся да сваіх лапцей, як уваходзілі. А лапці—«па паўпуда гразі»,—як яны зазначалі самі. Чаму дзяўчаткі аглядаліся на мокрыя і гразкія лапці гэтага я ня ведаю. Можа што самі плесьці ня ўмеюць. Бо нават адна з іх расказвала сяброўкам.

— Тата-ж мой сказаў, каб на дзьве нядзелі хапіла. Учора паплёў, а сягоньня абрэзкі пусьцілі.

Сяброўкі па разу зірнулі на гэтыя лапці і паматалі галовамі. Відаць, спачувалі. Кожная такі клопат мае.

— А ўсё за атрад будзе вінаваціць...—упамінала далей Марылька.

— А мой-жа тата ня сваліцца на мяне —хвалілася ўсім Алеська.

— А-а-а маніш, помніш, як скарачом лупцаваў?!—не сьцярпела Марылька.

— Дык усяго-ж тады, як у атрад уступіла. Я не запыталася ў яго.

— А цяпер?

— Цяпер добры тата. Нават грошы дае на нашу часопісь.

— А мне мама дала. Тату й не казалі нічога. Дзесятак яец прадала мама і выпісалі часопісь.

— Ціха, сябры!—празьвінеў голас павадыра з-за стала.

І ўсе ў хаце заціхлі. Усе абярнулі вочы да стала.

Стары Цупрук, каб ня блытацца сярод дзяцей, залез на чарэнь. Чарэнь, відаць, была гарачая. Цупрук стаў варочацца і стукнуў нагою ў цёрла, што стаяла на прымурку. Цёрла з грукам бразнула аб пол і ўся саладуха з яго разьлілася. Так і паехалі хлопцы з рогату, як убачылі гэтую штуку. Але яшчэ больш таго. Саладухаю аднаму хлопцу ўсе плечы абліло. Сядзеў ён на палу.

Павадыр атраду Міколка нічога гэтага ня чуў і ня ведаў Ён, як рэпу сек, гэтак гаварыў з-за стала. А ўсе слухалі яго. І слухалі ўважна Лепей слухалі, як настаўніка ў школе. Аб сур'ёзным гаварыў Міколка:

— Наш атрад працуе слаба. Мы самі добра навесьці працу ня зможам. Мы ня ведаем што рабіць. Але ёсьць выйсьце: напісаць да гарадзкіх піонэраў ліст. Няхай прыедуць да нас. Няхай памогуць нам паставіць на ногі працу.—Аб гэтым гаварыў Міколка.

— Давайце, сябры, выпішам гарадзкіх піонэраў да нас—крыкнуў адзін з хлапцоў. —Трэба, трэба—падхапіла больш.

— Да яно так і трэба, як Міколка кажа. Пашлём ліст у канвэрце ў горад і да нас прыедуць. Бараўскія-ж таксама пасылалі—дадаваў голасна Алесь—сын Цупрука.

Павадыр, праўда, ня ведаў гэтага толку, як усё гэта робіцца. Ён толькі чуў, што гарадзкія піонэры прыяжджаюць да вясковых. Але ўжо месяц прайшоў... Да гэтага часу нікога яны і ў вочы ня бачылі. Міколка так

і парашыў, што трэба даць нейкую аказю ў горад. Распытваўся Міколка ў сэкратара сваёй ячэйкі аб усім гэтым, але той і сам нічога ня ведае.

— Так і зробім, напішам—цьвёрда заявіў Міколка.

— Пішы, пішы—крыкнулі ўсе.

І на тварыках піонэраў пераліваліся вясёлыя іскры радасьці. Яшчэ шчыльней абхінулі стол і ўпіваліся прагней вачымі ў Міколку.

---

### За Леніным.

Барабанным шротам бі, барабан!
Піонэраў раць,
Гораду й вёскі—
Шагай пад барабанны бой!
Сьмела ў ногу з комсамолам,
Хай зьвініць наш сьпеў!
Лес з зялёным долам
Жарнуць нам прыпеў.
Усе да нас—з палёў, заводаў,
Дзеці беднаты.
Мы сябры усіх народаў,
Ленін,
Чуеш гэта ты?!
Нас мільёны піонэраў,
Мы жывём аднэй сям'ёй.
За Леніным,
За Леніным
Шагай пад барабанны бой!

**Серада Сяргей.**

---

Міколка выцягнуў з кішэні кусок зьмятай паперкі.

Усе ня зводзілі вачэй цяпер з паперкі. Нечым новым, прыгожым веяла ад гэтае паперкі на дзяцей.

Нават Цупрук і той ня ўлежаў на чарэні. Зьлез. Убачыў у дзяцей ён настаяшчую сталасьць. І брыдка, мусіць, было старому вылучацца з гэтай сур'ёзнай кучкі людзей.

—Слухайце, хлопцы!—абазваўся Цупрук. —Па нядзелі я еду да Менску, давайце ліст і завязу. Завязу ні тое што... а аддам куды гэта трэба. Бо хто можа верыць пошце—зойдзе, а можа й прападзе?!—Няўжо ён праўду кажа?—падумалі ўсе і зьвярнуліся да Міколкі.

— Вы думаеце я не патраплю да пінэраў, патраплю і—га. Колькі езьдзіў—заўсёды з імі страчаўся. І цяпер убачу—дапаўняў Цупрук.

Цупрук быў вельмі добры дзядзька. Ніколі на сына не пакрычаў за атрад. Добра, добра нам шанцуе!—радаваўся за сталом Міколка— цяпер напішам.

У момант зачыркала ручка, захрабустала папера. Крывыя, ломанныя каракулі лажыліся на паперу. А хлопцы й дзяўчаткі яшчэ бліжэй цісналіся да стала, каб убачыць, як там і што там пішацца.

У хатцы паветра сьціснулася, распарылася. Шчокі дзяцей ружавелі чырвоным макам.—Напісаў!—апавясьціў Міколка.—Слухайце. Міколка пачаў чытаць.

**— У Менск да піонэраў.**

Мы, Сімкаўскія вясковыя піонэры, шлем да вас ліст. Мы хочам, каб вы прыехалі да нас і памаглі нам наладзіць працу ў атрадзе. У нас няма ні кніжак, ні газэт, ні памяшканьня. Зьбіраемся на сходы па чарзе да кожнага сябра. Можа-б вы дапамаглі нам у чым небудзь. Усе-ж вы больш чаго ведаеце, вы старэйшыя.

Прыедзьце, чакаем.

— Ну як, добра?

— Добра, добра, аддаць дзядзьку!—загукалі сябры.

— І-ха-а, гэтак напісана, што мне й гаварыць з імі нічога ня прыдзецца! Убачу, аддам і—баста.

І Цупрук працягнуў сваю доўгую руку да стала. Узяў ён у Міколкі ліст і схаваў у камізэлку.

На гэтым сход і скончыўся. Піонэры радасныя расходзіліся з хаты.

Зашлёпалі па вуліцы лапці, зашуршалі абрэзкі. Палілася над хатамі вясёлая піонэрская песьня:

Далоў, далоў манахаў,
далоў, далоў папоў.
Залезем мы на неба
прагонім ўсіх багоў.

II.

Прайшло некалькі тыдняў. Цупруку вушы прадзяўблі піонэры:

— Каму аддаў і як аддаў ліст.

— Вельмі проста, аддаў ды ўсё. На вуліцы спаткаў піонэраў ды аддаў—усім адказваў Цупрук.

Міколка таксама баяўся за ліст. Хоць дзядзька Цупрук і добры чалавек, але ўсе магло здарыцца. Можа згубіў ды ня кажа, а можа аддаў так якім дзецям. Мала чаго магло быць.

Цупрук і сам быў неспакойны за ліст. Галоўнае праз яго рукі ішоў. І на табе—не пашанцавала гэтак.



НАМ ПАТРЭБНА ДАЦЬ АБ САБЕ АКАЗІЮ.

— Каб у мяне, скажам, рука была цяжкая, дык гэтага ніхто ня скажа—разважаў сам з сабою дзядзька Цупрук.

Усё было ціха, спакойна.

III.

У вадзін вясновы вечар, калі на дварэ ўжо добра абсохла, па ўсёй вёсцы разьнеслася навіна, што зьявіліся ў вёску іх нейкія невядомыя дзеці і падобны яны да піонэраў.

Невядомыя піонэры прышлі з барабанам, з сьцягам і ўсе абутыя ў боты.

У той-жа вечар у школе былі ўсе піонэры. Сабраліся ў школу проста для паважнасьці, бо школа ні чым ня розьніцца ад хаткі па вялічыне.

Будынак школы, як калом набіты. Навіна. А раз навіна, тут, брат, нікога дома ня ўдзержыш.

Міколка адчыніў сход. Сказаў ён некалькі слоў аб новых піонэрах і аддаў слова павадыру гарадзкога атраду Міхасю.

Міхась гаварыў адрыўчата, моцна, бойка. Кожнае слова—гэта не супакой вясковага жыцьця, а звон жалеза на заводзе.

Старыя глядзелі на Міхася і дзівіліся яго розуму і сьмеласьці.

— Адкуль у яго ўсё гэта бярэцца?!—пераглядваліся паміж сабою хлопцы і дзяўчаты. Дзяўчаткі завідвалі такой жвавасьці гэтага бойкага, сьмелага хлапчука.

Гаварыў Міхась аб піонэрах, аб іх руху і мэтах. Асабліва затрымоўваўся на вясковых піонэрах і адносінах сялянства да піонэраў.

Раптам неяк ува ўсіх расчыняліся вочы. На паверх, з глыбіны сэрца, выплывалі зоркі сьвету. Усім было лёгка і прыемна. Але былі й такія, што чагось сумавалі. Гэта старыя Тадора Лявонавых і Анупрэй.

Тадора прыкметна пачала ўціраць сьлёзы. Успомніла яна, што некалькі разоў нахвастала Пётрыка свайго за піонэрства.

— Нічога ня ведала, жаночкі, нічога ня ведала...—гаварыла Тадора шопатам, каб апраўдаць сябе. А вочы яе лавілі Пётрыка. Хацелася цяпер-жа расказаць яму, што думае.

Міхась кончыў. Зычна пакаціліся яго апошнія словы:

— Узаўтра спэктакль, дармова.

IV.

4 дні прабыў гарадзкі атрад у вёсцы. Усяго чатыры дні.

— Ох, як гэта мала!—было ў кожнага на думцы з вясковых піонэраў. Але нічога ня зробіш.

— Мы будзем часта да вас прыяжджаць—радасна заяўлялі гарадзкія піонэры.

— А мы да вас таксама на фабрыку прыедзем—адказвалі вясковыя.

На станцыю іх праводзілі вясковыя піонэры і дзеці. Так зжыўся гарадзкі атрад за гэтыя дні, што ўсе дзеці гатовы ісьці за ім.

На станцыі не чакалі.

Якраз адходзіў цягнік.



ЦУПРУК АДДАЎ ЛІСТ ПІОНЭРУ.

— Бывайце, бывайце, сябры—гукалі з цягніка піонэры.—Бывайце й не забывайце —адказвалі ім вясковыя.

Дадому йшлі дзеці вясёлымі, жвавымі. У кожнага была моцная вера, што сузязь іх з гарадзкімі піонэрамі будзе моцная.

А колькі сьвежасьці, колькі жыцьця ўлілі ў вёску госьці! Колькі памаглі яны атраду ў яго працы!—Аб усім гэтым і думалі цяпер піонэры.

Алесь Цупрукоў дык на пальцах прабаваў вылічыць, што зрабіў ў іх гарадзкі атрад. Але пальцаў не хапала. Алесь пачынаў спачатку:

— Паставілі спэктакль—раз. Расказалі нам аб піонэрах і аб жыцьці піонэраў у горадзе—два. Памаглі знайсьці клюб—тры. Абсталявалі Ленінскі куток у клюбе—чатыры

Дзе ты зьлічыш, ты-ж да дзесяці ня ўмееш—смяяліся хлопцы з Алеся.

— Вось гэта дык выпісалі—сказаў Алесь напасьледак і перастаў лічыць пальцы.

**А. Якімовіч.**

## Гімн піонэраў.

Вясна радзіла нас для сонца,
А сонца жыцьце нам дало,—
Загэтым жару ў нас бясконца,
А сэрца сонцам расьцьвіло.
Шчыльней калоны, шырэйшы шаг!
Нас міліёны—адна душа!
Нясуцца думкі ў даль—далёка,
Гарыць змаганьня ў нас іскра,
Зіяе мэтаю высокай
Сусьвет-комуна—шчасьця край.
Шчыльней калоны, шырэйшы шаг!
Нас міліёны—адна душа!
Ідзём мы к шчасьцю на спатканьне,
Бадзёрыць нас уздымны дух,
Былых нягод ня страшаць здані
З імпэтам буры грамаду!
Шчыльней калоны, шырэйшы шаг!
Нас міліёны—адна душа!
Мы юныя, ў нас сілы многа,
Каб перайсьці парог ў сусьвет,
Злучыць усё ў адну дарогу
Ў прыгожым жыцьця харастве.
Шчыльней калоны, шырэйшы шаг!
Нас міліёны—адна душа!
Радзее даляў згустак шэры...
Наш сьпеў—магутны зык тварца!
Сыны працоўных—піонэры
Заветы споўняць да канца!

А. Гурло.



# ШЭФСТВА.

Шэфства гарадзкіх піонэраў над вясковымі мае вялікае значэньне. Перш за ўсё яно, шэфства, павінна прыблізіць гарадзкіх дзяцей да вясковых. Нашы гарадзкія піонэры мала знёмы з жыцьцём і працаю вясковых; вясковыя таксама з жыцьцём і працаю гарадзкіх.

**Як організаваць шэфства.**

У атрадзе выбіраецца камісія, якая кіруе ўсёй гэтаю справаю.



**Якуб Колас, беларускі поэта, сярод дзяцей.**

Гарадзкія ячэйкі комсамолу і атрады пры іх бяруць шэфства над вясковымі ячэйкамі і атрадамі пры гэтых ячэйках. Праца атраду сумесна з ячэйкаю павінна адчувацца ва ўсіх галінах.

Гаралзкі атрад павінен выпрацаваць зараней плян сваёй працы ў вясковым атрадзе. Гэты плян трэба разгледзяць і абгаварыць на сходзе ячэйкі комсамолу.

Гэты-ж плян павінен быць вядомым і вясковаму атраду. У працу па шэфству трэба ўцягнуць усіх піонэраў, даючы ім тыя ці іншыя заданьні.

Выезды ў падшэфныя атрады можна практыкаваць цэлым зьвяном.

Гарадзкія атрады пры выезьдзе павінны знаёміцца з жыцьцём і працаю вясковых атрадаў. Гарадзкія піонэры будуць развучваць з вясковымі свае піонэрскія песьні.

Гарадзкія піонэры памогуць організаваць вясковым насьценную газэту, будуць абменьвацца насьценнымі газэтамі. Таксама гарадзкія атрады будуць вывучваць розныя народныя песьні, быліны (гэроічныя аповесьці, якія злажыў сам народ), казкі.

Вясковыя піонэры змогуць у сваю чаргу прыяжджаць да гарадзкіх. Тут яны будуць знаёміцца з жыцьцём заводу, з умовамі працы на заводзе.

Усе гэтыя выезды трэба выкарыстоўваць для таго, каб навучыць вясковых піонэраў сталай працы ў атрадзе. Гарадзкія піонэры маюць большы вопыту працы атраду. Трэба, каб гэты вопыт яны перадалі вясковым піонэрам.

Гарадзкія піонэры могуць дапамагчы вясковым выпісаць свае часопісі, газэты і іншую літаратуру.

Гарадзкія атрады, дапамагаючы вясковым у іх працы, выконваюць адзін з важных заветаў Ільліча—змычка гораду з вёскаю.

З усіх сабраных матар'ялаў па шэфству атрады могуць організаваць куток. Гэтыя куткі будуць дасканала адбіваць працу па шэфству.

Апрача гэтага гарадзкія піонэры наладжваюць з вясковымі перапіску. У перапісцы патрэбна апісваць усю працу атраду, умовы працы на зразумелай для вясковых піонэраў мове.

У насьценнай газэце неабходна адвесьці куток, дзе апісваць усю працу па шэфству, вынікі працы. Аб гэтым-жа трэба пісаць і ў нашу піонэрскую часопісь і газэту.

Ня трэба гарадзкім піонэрам дакляроўваць для вясковых таго, чаго ня змогуць выканаць. Гэты абяцанак ужываць ня можна. Трэба дакляраваць тое, што могуць даць гарадзкія піонэры вясковым, што могуць выканаць.

**М. Лабадаеў.**







# ДЗЕЦІ беларускай вуліцы.

**(Апавяданьне).**

I.

Па вуліцах коўдрамі рассыпаліся хмары. Было туманна... Прышла халодная шэрая восень.

Янка „вучоны“ (так звалі яго сябры за тое, што ўмеў чытаць плякаты кіно)—ня спаў.

Ён сядзеў і аглядаў сваю хату, свой прытулак; акінуў вокам таварышоў, якія так соладка спалі. Ён ня мог спаць, было неяк холадна.

Яго хата, яго прытулак— вільгатнае, бруднае, цёмнае сутарэньне*). Калісьці можа хто і жыў тут, але цяпер толькі вецер прабяжыць ды сьвісьне праз пабітыя вокны ды ўзламаныя дзьверы.

Янка „вучоны“ ўзадуменьні... Ня раз ён бачыў піонэраў, ня раз ён бачыў дзяцей, якія беглі з кніжкамі ў школку; сьціснулася яго дзіцячае сэрца. Яму было гадоў восем. Яго пацяшала толькі адна думка: падрасту, пайду ў Чырвоную Армію... Аб гэтым заўсёды думаў Янка. Ён ужо насіў чырвонаармейскі шлем і на грудзёх чырвоную пяцёхкутную зорку. І цяпер, седзючы ў гэтым сырым сутарэньні, яму малявалася фігура дарослага Янкі „вучонага“—чырвонаармейца з заслугамі. І твар яго павесялеў, нібы абліўся сонечнымі праменямі, але ўсе яго думкі-надзеі разагнаў атаман—Васька Спрытны, які прачнуўся ў гэты час. Атаман устаў, пацягнуўся і разбудзіў сваіх таварышоў.

Усіх было пяцёрка, адна моцная сямейка.

II.

Атаман—Васька Спрытны даў загад:

— Разыйсьціся, здабыць снеданьне.

Даў загад і супроць яго ніхто ня выступае. І на-што-ж выступаць? Загад, каб здабыць есьці,—хто-ж будзе гэтаму супярэчыць?

Цішком, няпрыкметна, азіраючыся вылезьлі з сутарэньня.

*) Сутарэньне—падвал у гарадзкіх дамох, дзе жывуць людзі.

Атаман уклаў два пальцы ў рот, сьвіснуў,—хлопцы разьбегліся ў розныя бакі...

Васька Спрытны і Янка «вучоны» пашлі ў коопэратыў. Янка чуць ішоў. Яго вялізныя боты ды цэлая гара балота на іх, падкасвалі яго сілу.

Васька Спрытны—сьмелы хлапец, яму гадоў дванаццаць. Кепка сядзіць у яго толькі на патыліцы, падраная шэрая сарочка падпаясана вяроўкаю, ногі абверчаны анучай, у галёшах, і падвязаны электрычным провадам. З правага боку ў яго вісіць «наган», зроблены з дзерава, на рукаве тры зоркі,—усё гэта азначае, што Васька Спрытны начальнік, што Васька Спрытны—атаман.

У коопэратыве Янка «вучоны» ўбачыў вялікі плякат, на якім быў намалёваны чырвонаармеец.

Янка зацікавіўся, стаў разглядваць яго з розных бакоў. Раптам за яго рукаў хапіў Васька і бягом з коопэратыву на вуліцу, пасьля ў браму, там праз агарод, ды ў сваю хату—сутарэньне.

У коопэратыве Васька Спрытны сьцягнуў тры селядцы.

— Вось і сьнеданьне!

Усьлед за імі ўбягае ў сутарэньне трэці. Яму нічога не ўдалося дастаць з яды, але ён сьвіснуў у цыганкі карты.

Узрадаваліся хлопцы...

— Гэта файна—здаволена кінуў Васька.

Уселіся хлопцы і пачалі ўспамінаць: дзе дамка, дзе кароль, дзе піковая дзесятка.

Неўзабаве прыбягаюць яшчэ два. Адзін зьняў у суседняй крамцы цэлы зьвязак абаранкаў, а другі здабыў ажно тры каробкі папярос.

— Будзем шамаць!—падаў голас атаман і бруднымі рукамі ломяць абаранкі, ядуць іх, закусваюць селядцом.

Павесялелі хлопцы.

Закурылі, дым істужкамі паплыў на вуліцу...

Падмацаваліся, селі гуляць у „дваццаць адно“...

Прабілася праз хмары сонца, кінула свой прамень у сутарэньне, у «хату» цёплай сямейкі атамана Спрытнага, і нібы прадказвала ім запраўды нешта яснае, радаснае, новае...

III.

Жанчына, як яе звалі т. Белькіна, гаварыла моцна, горача, вымагала выбраць камісію...

Гэта быў сход і таварыш Белькіна рабіла даклад аб бяспрытульных дзецях Беларусі.

— У нас, таварышы, бяспрытульных дзяцей у дзіцячых дамох налічваецца ўжо—5812, а вы ведаеце, колькі яшчэ дзяцей на вуліцы? —3052 чалавекі. Гэта самыя апошнія лічбы.

Нам трэба абавязкова цяпер тут, на сходзе, выбраць камісію, каб адшукваць такіх дзяцей і пасылаць іх у дзіцячыя дамы...

Спрэчак ня было.

Камісію выбралі...

IV.

Вечар, шумны гарадзкі вечар. На цэнтральнай вуліцы, ля кіно, шмат народу.

— Мусіць нешта цікавае—падумаў Янка «вучоны» і пачаў чытаць:

—Анта—Одэлі—Ута*)...

Вычытаў, але не зразумеў... Пачаў разглядваць вывешаныя малюнкі...

А народу ўсе прыбаўлялася, і ён апыніўся ў асяродку грамады.

Раптам яго погляд спыніўся на нейкай паненцы, бо пад пахай у яе быў рыдзікюль*). Ён згорбіўся, злавіў момант і... раз!..

Бягом з рыдзікюлям дамоў...

Янка „вучоны“ радаваўся, а ня ведаў, што за ім сочаць...

А сэрца яго выстуквала, як-бы нешта казала...

V.

Стралой убег Янка ў сутарэньне.

Атаман ляжаў сабе задраўшы нагу ды курыў папяросу.

„Здабыча“ Янкі ўзрадавала атамана і яго таварышоў... Усе радаваліся.

Пачалі разглядваць і раптам перад сабой убачылі нейкага незнаёмага чалавека ў скураной куртцы.

— Ходу!—крыкнуў атаман, але ўцякаць ня было ўжо як... Тады Васька Спрытны, выняў «драўляны» рэвольвер і незнаёмаму сурова кінуў:

— Дарогу!...

Ім уцячы не ўдалося. Незнаемы павёў іх у камісарыят асьветы.

Незнаёмы—быў сябра камісіі па барацьбе з бяспрытульнасьцю.

VI.

Назаўтра іх прывялі ў дзіцячы дом. Адразу вымылі іх, далі новую адзежу... Хлопцы ўзрадаваліся, пачалі знаёміцца з другімі дзяцьмі і толькі быўшы атаман, Васька Спрытны, хадзіў нешта сумны, абдумваў пляны—як-бы ўцячы...

Першы дзень ён не хадзіў ні абедаць, ні вячэраць. Сядзеў насупіўшыся ў кутку рабочага пакою—думаў, перадумваў...

— Васька, а Васька, хадзі глянь, вось цікавая штука тут, хадзі... І Янка „вучоны“ пацягнуў яго ў другі пакой.

Там, таксама быўшы атаман Пецька Кій зрабіў модэль іх дзіцячага дому і правёў электрычнасьць...

Прыгожа... праз вокны маленькага доміка прабіваецца сьвятло.

Глянуў Васька,—лямпачкі маленечкія, зацікавіўся...

Стаў распытваць...

VII.

Васька атаман быў як воўк і думаў уцякаць толькі першыя дні.

Пасьля яго захапіла цікавасьць да электрычнасьці. Пачаў хадзіць у майстэрню працаваць, вучыцца на манцёра. Васька вучыўся й грамаце...

Васька перамяніўся, Васька зусім не такі, як калісь, калі быў атаманам „пяцёркі“...

І Янка перамяніўся, ён заўсёды сядзеў цяпер за кніжкай.

Бывае ўвечары зьбяруцца хлопцы, Васька раскажа—чаму гэта пакруціш, і загарыцца электрычнасьць, а Янка раскажа аб Леніну, хто ён і як ён працаваў...

Не пазнаць хлопцаў, перамяніліся...

---

*) Анта-Одэлі-Ута...—карціна, якая йдзе ў кіно.

*) Рыдзікюль—кашалёк, які носяць гарадзкія багатыя дзяўчаты ў руках, куды хаваюць свае грошы, хустачкі і іншыя рэчы.

VIII.

— На сход! На сход!—зьвіняць галасы, на сход!

У клюб дзіцячага дому сабраліся ўсе дзеці.

— На парадку дню ў нас два пытаньні: Першае—справаздача дзіцячага комітэту; другое—выбары новага комітэту і бягучыя справы.

— Хто хоча зьмяніць парадак або дабавіць?

— Няма?

— Прыймаецца.

Нам трэба выбраць старшыню сходу. Намячайце кандыдатуры.

— Атамана, атамана—пасыпаліся галасы дзяцей...

Гэта, значыць, Ваську Спрытнага.

IX.

Васька Спрытны,—добры электра-манцёр, старшыня дзіцячага комітэту, толькі што атрымаў кніжкі, плякаты, гальштукі, піонэрскія значкі, газэты і яшчэ некаторыя рэчы для вясковых піонэраў.

Была ўжо цёплая вясна: суха і весела.

Дзіцячы дом пераяжджае ў вёску.

А дзеці ўжо складаюцца.

Янка вучоны складае насьценныя газэты, захоўвае іх, каб ня згінулі. Бягуць, мітусяцца, ну, заўсёды, як перад выбарамі куды небудзь у вялікую дарогу.

І раніцою, назаўтра крануліся і паехалі...

Песьні...

Радасьць, шчырая радасьць вясны спавівала дзяцей атраду, дзе Васька Спрытны ўжо павадыр зьвяна.



Піонэрскі оркестр.

Яго і тут празвалі атаманам.

Васька зусім перамяніўся, а ў дзіцячым доме пабыў толькі паўгода.

Старшынёю сходу выбралі Ваську.

Цяпер намячайце сэкратара сходу.

— Вучонага, вучонага, ён добра піша...

І Янка ня згубіў свае клічкі, яго і тут завуць «вучоны»—бо заўсёды за кніжкай...

Сход пачаўся.

Выслухалі даклад старога комітэту, шмат спрачаліся, прынялі рэзолюцыю і перайшлі да перавыбараў...

Выбралі пяць чалавек... Янку вучонага назначылі культкомам, а Ваську выбралі старшынёй дзіцячага комітэту.

X.

Дарога невялічкая—40 вёрст. Ніхто не змарыўся, усе былі вясёлыя, шчасьлівыя. Ехалі організавана, зьвяно за зьвяном.

Назаўтра пасьля паўдня прыехалі...

Піонэры ў вёску ўвашлі пастроіўшыся, пад барабанны бой. Васька йшоў наперадзе.

Зьдзіўлена і радасна глядзелі на іх вясковыя дзеці...

Астанавіліся.

Васька ўзьлез на падводу і пачаў гаварыць. Абхінулі яго дзеці ўсёй вёскі.

— Таварышы—пачаў Васька—мы будзем жыць тут праз вярсту, у быўшым панскім фальварку, але мы будзем разам. Вы будзе-

це прыходзіць да нас, а мы да вас. Будзем разам працаваць. Так рабіць сказаў наш настаўнік Ленін.

—Ур-ра! Ур-ра!... Прагучэла над вёскай. —Ур-р-ра!... адгукаўся лес...

— Таварышы—стаў гаварыць Янка вучоны—мы організуем у вас піонэрскі атрад, мы вам прывезьлі гальштукі і піонэрскія значкі, мы вам... Але яму ня далі скончыць, ізноў узьнялося радаснае ўр-р-ра... і ізноў адгукнуўся лес...

З песьнямі пайшлі ў фальварак. Пялі ўсе. Пяяў і атрад, пялі і вясковыя дзеці.

XI.

Васька адразу ўзяўся за працу. Гаспадарчая камісія ўжо добра працуе, санітарная—падцягнулася. Трэба, падумаў ён, дапамагчы культурнай камісіі.

У залі фальварку зрабілі клюб. Янка вучоны старэнна працуе ў клюбе.

А клюб стаў прыгожы.

— Калісь тут і электрычнасьць была, а цяпер...

— І цяпер будзе,— голасна адказаў Васька.

Ён ужо бачыў, што ўвод электрычнасьці з слупоў ня зьнішчаны, а толькі ў сярэдзіне будынку правады збэшчаны...

І праўда, праз тры дні ў клюбе было сьвятло...

Народу сабралася... і старыя сяляне, і дзеці.

Васіль стаяў у садзе; абдумваў: як-бы лепш зрабіць даклад.

— Васіль, а Васіль—крыкнуў да яго радасна Янка—я напісаў верш, паслухай, я яго пачытаю...

— Добра?

Сонца пашле праменьні
у нашу новую вёску;
Засьвеціць і ў хату і сені,
сагрэе, як маці, бярозку.
Мы дзеці бацькоў ня знаем,
але добра жывецца нам.
Мы дзетак вясковых вітаем,
вітаем і вас, сялян.
Дзеці, усе ў піонэры!
Новае жыцьце кавацць.
Усе, хто у лепшае верыць
разам з намі стаяць.
Дык, дзеці, ўсе за намі,
за намі усе, як адзін!
Тады хутка ўжо над палямі
пальлецца песьня машын.

Ну-як? можна чытаць?

— Выступай!... А добра цяпер, праўда, Янка? сказаў мяккім голасам Васіль.

Янка нічога не адказаў, ён не хацеў успамінаць мінулае...

— Ну, пойдзем, адчынім клюб, ты пачытаеш свой верш, тады тым, што запішуцца ў піонэры, раздамо гальштукі і значкі. А як спэктакль добра пройдзе?

— Добра!—адказаў Янка.

— І гімнастыку пакажам...

Пайшлі...

А ціхі вясновы вецер калыхаў галінкі яблыні, убраныя, як сьняжынкамі, белым пушыстым цьветам...

Па небе спакойна плаваў месяц...

А ў клюбе,—гоман, весела...

Дзеці беларускай вуліцы ажыцьцяўляюць думкі Леніна.

**Андр. Александровіч.**



# ПЕРАМАГЛІ.

Белыя палкі на сонцы мігаюцца—
Піонэры дружна на пажар сьпяшаюцца.
Вось і за ўзгорак пакаты схаваліся,
Як маланкай, хутка да вёскі памчаліся...
...Тут не драмалі:
Помач падалі.
Буйным даждом полымя мы аблівалі—
Гэтак з пажарам мы ваявалі,
Піонэрскі абавязак свой выпаўнялі,
Гаспадарку ад агню збаўлялі.
Упартая барацьба ўсё пазмагала;
Толькі адзнакай стаяла—
Абгарэлая хатка ды воўкам глядзела,
Дзівілася быццам з піонэраў сьмелых.
Хутка ўсім нам каманду падалі,
У шэрагі шчыльна пасталі
І ў Чэрвень дамоў пашагалі.
Дрэвы зялёнага лесу
Галоўкамі нам махалі,
Пяяць памагалі:
„Мы—перамогу атрымалі".

Піонэр **Я. Гэрмановіч.**

# ЯК МЫ ЖЫВЁМ.

## Помнім аб вёсцы.

Ня гледзячы на вялікі холад, Крычаўскія піонэры ўсе праводзілі гадавіну комсамолу ў вёсцы Сакольнічы. У вёсцы нашы піонэры правялі некалькі дзён з вясковымі піонэрамі. Мы тлумачылі ім тое, што ведалі самі аб комсамоле, аб піонэрскім руху і інш. З свайго боку Сакольніцкія піонэры расказалі нам аб сваім жыцьці.

Вясковыя піонэры засталіся вельмі здаволены і дакляравалі пабыць калі-небудзь у нас.

Расталіся мы з вясковымі піонэрамі сябрамі і дакляравалі прысылаць ім газэты й часопісі.

**Мішка В.**

(м. Крычаў.)

## Наш падшэфны атрад.

Аднаго разу наш атрад № 5 імя т. Адамовіча прачуў, што ў вёсцы Стахове організуецца піонэрскі атрад. Мы сабраліся і пашлі ў гэту вёску.

У вёсцы мы паставілі некалькі піонэрскіх інсцэніровак. Гэтым мы вельмі зацікавілі вясковых дзяцей. Пасля мы організавалі маленькі піонэрскі атрад імя т. Крупскай. Атрад хутка пачаў расьці. Наш атрад трымае з Стахоўскім атрадам самую цесную сувязь.

**Х. Крупкін.**

(м. Барысаў).

## Жыцьцё нашага атраду.

**(Нізаўскі вясковы атрад юных піонэраў імя т. Ігнатоўскага, Узьдзенскага раёну, Менскай акругі).**

Атрад юных піонэраў імя У. М. Ігнатоўскага знаходзіцца пры Нізаўскай ячэйцы ЛКСМБ. Організаваны атрад у 1924 годзе ў ліпені месяцы і вельмі неўспадзеўкі. А было гэта так: прачыталі нашы хлопцы ў „Звезде“ за 1 ліпеня 1924 году перадавіцу В. Н. „Комсамол і юныя піонэры“. Ніхто з нас ня ведаў тады, што гэта за піонэры й на што яны.

Але ў пэршых ліках ліпеня аб піонэрах мы даведаліся ад сябра Нізаўскай ячэйкі, які прыехаў з гораду. Гэты-ж сябра прывёз з гораду піонэрскую літаратуру і лісты ад Цэнтральнага Бюро юных піонэраў Беларусі, дзе ўказана было, як організаваць атрад у вёсцы.

Усе комсамольцы былі вельмі зацікаўлены піонэрскай організацыяй у вёсцы. Ячэйка пачала весьці працу ў гэтым кірунку. Хутка ў вёсцы быў заснованы ячэйкаю дзіцячы гурток з лікам 22 сяброў. Праца ў гуртку вялася досыць добра. Гурток пачаў расьці. З гэтага гуртка і організаваўся піонэрскі атрад. Атрад абраў свайго ідэйнага правадыра т. У. М. Ігнатоўскага.

Другім важным і неадкладным пытаньнем было — гэта знайсьці шэфа, бо бяз сродкаў працаваць было нельга: патрэбны былі кнігі, газэты, гальштукі, значкі і г. д.

Шэфам у хуткім часе зьявіўся нашаму атраду мясцком Узьдзенскіх харчавікоў і раёны комітэт комсамолу. Павадыром атраду быў выбраны вясковы хлапец, сябра нашай ячэйкі.

Зразу праца давалася трудна, як павадыру так і піонэрам. Кніжак таксама было вельмі мала. Праца тады йшла зусім памалу, бо многа чаго было незразумелага нават павадыру.

Але хутка адчыніліся курсы для павадыроў вясковых атрадаў. Павадыр нашага атраду таксама быў на курсах. Цяпер праца пайшла хутка наперад. З кожным днём наш атрад расьце ўва ўсіх адносінах. Аўторытэт атраду сярод сялян расьце.

**Як мы працавалі й працуем.**

Організаваны наш атрад у ліпені месяцы, якраз у той час, калі пачала сьпець гародніна і садовіна. Да гэтага часу з дзяцьмі была цэлая бяда: дзеці лазілі ў агароды, а бацькі сварыліся і біліся паміж сабой за дзяцей.

Спачатку сяляне дрэнна адзываліся аб нашым атрадзе. Яны гаварылі, што ў нашым атрадзе яшчэ лепш навучаць іх дзяцей лазіць у вагароды і сады. Але вышла зусім наадварот. Сялянскія дзеці, якія запісаліся ў атрад у вагароды больш не палезьлі. Гэта вельмі зацікавіла сялян. Сяляне пачалі адзывацца аб атрадзе ўжо так: „Самая чыстая справа—аддаць дзяцей у атрад. Там зробяць з іх людзей.“

І сяляне ахвотна пачалі выпраўляць дзяцей у піонэрскі атрад.

Гэтак было ўлетку і ўвосень.

Але прыйшла зіма. І піонэры замест таго, каб на коўзанцы рваць лапці ды адмарожваць сабе вушы, зьбіраюцца на сходы зьвеньняў, дзе займаюцца рознымі гутаркамі, песьнямі, гульнямі і г. д.

Ня бегаюць піонэры й каля вокнаў і не перашкаджаюць рабіць сходы сялянам. На сходы піонэры вылучаюць ад сябе некалькі сяброў, якія потым аб усім перадаюць у атрадзе.



Піонэры ў майстэрні.

Вось за што сяляне так любяць і паважаюць піонэраў.

Дык няхай жывуць і шырацца атрады юных ленінцаў на вёсцы! **Піонэр Герасімовіч.**

---

## Сіротка.

Была ноч. Бушавала віхура.
Не шкадуючы сыпаўся сьнег.
Насыпаў ён на вуліцах гурбы,
Пабеляў белым мелам ён стрэхі.
Каму хочацца выйсьці з хаткі,
Зьлезьці з печы ў такую пагоду?—
Пахаваліся людзі, жывёла...
Каму-ж мерзнуць ахвота?
Толькі той, хто ня мае хацінкі,
Хто ня мае дзе душу сагрэць,—
Бяспрытульным па вуліцы шлёпаў,
Яго твар ружавеўся, гарэў...
То сіротка, бяздомны хлапчына,
Скарзанеўшы, сагнуўшыся йшоў.
Ён шукаў, каб знайсьці дзе хацінку,
Дзе-б ён мог абагрэцца ўздужаць.
Ён ішоў зазіраючы ў вокны
Нізкіх хатак сялян...
Вецер дзьмуў, як знарок,
Ля вушэй ён гудзеў і сьвістаў.
Ды ня зьдзейсьніў свайго шэльма-вецер:
Піонэры з добрай душою
Узялі, абагрэлі сіротку—
Пролетарскага сябра свайго.
А назаўтра сіротка бадзёра
З піонэрамі ў школу шагаў.
Твар сьвяціўся адважным задорам,
Сіротка Лёнінцам стаў. Піонэр **Глебко.**

---

# СПАТКАНЬНЕ.

**(Апавяданьне).**

Была цёплая летняя раніца.

Польскі канарак стаяў каля абадранага хлопчыка, якога звалі Рыгорам.

Гэта быў невялічкі хлопчык гадоў дванаццаці, сын батрака. Яго пан Анюхоўскі ўзяў ад бацкоў сілком з сабою да панскай Польшчы ў час адыходу палякоў з Беларусі. Рыгор стаяў каля гміны ў задуменьні. Ён толькі час ад часу паглядаў на неба на ўзыход сонца.

Пры ўспамінах аб матцы і брату ў Рыгора на вочах навярнуліся сьлёзы.

Ён чуць не расплакаўся. Яго сумныя мары перарваў грубы сярдзіты голас:

— Ідзь тутэй, галган!

Рыгор ад такога неспадзяванага крыку аж падскочыў на месцы і затросься ўсім сваім маленькім целам. У яго думцы пранёсься маланкаю малюнак здарэньня, якое адбылося тыдзень таму назад.

Рыгора і яшчэ аднаго хлопчыка Янку—старэйшага ад Рыгора—злавілі. Іх прывялі ў гэту самую гміну, каля якой стаяў Рыгор. Тут канаркі па загаду старосты білі іх. Папярэдзе білі бізунамі, а Янку яшчэ потым шомпаламі. Пасьля Янку чуць жывога і бясрытомнага кудысь павезьлі.

Білі іх за тое, што яны ўцякалі туды, на ўсход; уцякалі на сваю бацькаўшчыну Беларусь, да сваіх братоў і сяброў. А на ўсход хлапцоў так цягнула і вабіла.

Янка й Рыгор згаварыліся ўцячы.

Іх, як малых і ня ведаючых добра дарогі, хутка злавілі польскія канаркі.

За гэта іх былі.

Цяпер, пры словах: „Ідзь тутэй, галган“, у Рыгора аж дух заняло.

— Зноў будуць біць—пранеслася ў яго галаве. Ён зноў уцякаў і зноў яго злавілі.

Вельмі ўжо цягнула Рыгора дамоў у вольную Беларусь.

— Хай хоць заб‘юць, але тут ня буду ў гэтых драпежнікаў!—сказаў Рыгор і пашоў да гміны, куды яго звалі.

У гміне Рыгор ўбачыў пана. Пан штось гаварыў з старостам. Анюхоўскі, як убачыў Рыгора, сказаў:

— Цяпер тут цябе біць ня будуць, затое мой эканом прыгатаваў пучок добрай лазы...

— Едзем дадому!

Пан сеў на каня, а Рыгору сказаў ісьці паперадзе. Ён шчыра падзякаваў „дабрадзею“ старосьце за тое, што той злавіў Рыгора.

З сьціснутым сэрцам ад жалю і злосьці вяртаўся да пана Рыгор.

Там яго чакалі розгі і штодзённыя мукі...

У сэрцы Рыгора падымаўся балючы крык: „Калі, калі збавеньне? Ці хутка прыдзе той час?!“

Калі прышоў Рыгор да панскага двара, яго спаткалі тут, як якого злодзея, або забойцу.

Пан Анюхоўскі загадаў эканому адлічыць Рыгору 25, а на ноч заперці ў хлеўчык.

Аканом не пашкадаваў Рыгору дваццаць пяць розак і хлеўчыка...

Рыгор нічога ня ведаў, што ў яго сябра, Юзіка комсамольца, злажыўся ў галаве плян. Плян вызваленьня Рыгора і помсты пану. Рыгор моцна заснуў ад утомы. Ня чуў Рыгор, як да яго ў хлеўчык дабраўся Юзік і яшчэ адзін хлопчык. Ён прачнуўся тады, калі Юзік стаў цягаць яго за руку і гаварыць:

— Уставай, годзе спаць! Будзеш спаць дома з Костусем!

Рыгор не разумеў, што гэта яму гаворыць Юзік.

Пакуль Рыгор прыходзіў да сябе, Юзік тым часам нешта гаварыў другому хлапчуку. Потым Юзік зьвярнуўся да Рыгора:

— Хутчэй, Рыгор. Трэба да раніцы быць далёка, каб пан не агледзяўся...

— Уцякайма!.. Напярэдадні Юзік з Рыгорам былі ўжо далёка ад панскага маёнтку.

Першыя косы сонца вітаў дзесь далёка, далёка назадзе ў хлапцоў пажар і цёмныя клубкі дыму. Гарэў маёнтак пана Анюхоўскага. Юзік засьмяяўся і хлопцы пайшлі далей.

Хутка ў лесе пачулі хлопцы і сьпевы, і сьмех—гэта былі піонэры ў лягерах.

— Вось мы й дома—сказаў з радаснай і вясёлай усьмешкай Юзік Рыгору. Зараз іх абхінулі вясёлыя дзеці—піонэры. Пасыпаліся пытаньні: хто яны, адкуль яны?

— Рыго-о-ор! — Закрычаў адзін з піонэраў—мой брат, Рыгор!

Так спаткаліся малыя браты—Рыгор і Костусь.

Костусь-піонэр зараз-жа павёў Рыгора да свайго павадыра і хутчэй прасіў залічыць яго ў іх атрад піонэрам.

Юзік вяртаўся да паноў на сваю ўпартую й няўпынную працу. Ён разьвітаўся з Рыгорам са словамі:

— Хутчэй вяртайся да нас, Рыгор!

Бывай здарова, чырвоная зьмена! Чакаем вас!

**С. Шыманскі.**

---

**Піонэры і школьнікі! Шлеце допісы, апавяданьні, вершы, малюнкі, загадкі, шарады ў сваю часопісь. Шлеце свае думкі наконт часопісі.**

## Багушэвіцкі атрад і яго праца.

(Бярэзінскі раён, Барысаўшчына).

Організаваўся Багушэвіцкі атрад нядаўна, усяго 3 месяцы таму назад. Цяпер атрад налічвае ў сваіх шэрагах больш за 50 піонэраў. Атрад расьце з кожным днём. Імкненьне да сваёй організацыі ў дзяцей вялікае.

Праўда, дзецям часта прыходзілася спатыкаць перашкоды з боку бацькоў. Часта дзеці ўступалі ў атрад бяз ведама і дазволу бацькоў, за што пападала ім, як кажуць, „на гарэхі“. Але гэта для дзяцей не перашкода. Ня спыняецца ў іх цяга да атраду.

### Працуем добра.

Увесь атрад разьбіты на 4 зьвяны: юны колекцыянэр, юны коопэратар і інш., прычым характар працы кожнага зьвяна адпавядае назве (напр., зьвяно юны колекцыянэр занята зьбіраньнем розных колекцый). Заняткі зьвеньняў адбываюцца кожны тыдзень. Перш было трохі дрэнна, бо атрад ня меў свайго клюбу. Цяпер для атраду далі пакой у быўшым папоўскім доме. Праца пайшла лепей. Кожнае зьвяно мае тут свой куток.

Апроч заняткаў зьвеньняў, кожны тыдзень адбываецца агульны збор атраду.

Атрад мае моцны форпост у школе, дзе ён шырока вядзе працу сярод вучняў. Форпост організоўвае сходы вучняў, дзе піонэры тлумачаць дзецям аб сваёй організацыі і гэтым самым уцягваюць усіх вучняў у свае шэрагі.

Атрад выпускае сваю насьценную газэту. За час існаваньня атраду вышла ўжо 6 нумароў. Газэта добра адбівае жыцьцё атраду, і піонэры любяць яе, прымаючы ў ёй самы гарачы ўдзел. Няма ніводнага піонэра ў атрадзе, які-б ня пісаў у сваю газэту.

Багушэвіцкі атрад трымае сувязь з іншымі атрадамі піонэраў. Дзеля гэтай мэты атрад выбраў бюро перапіскі. Лісты другіх атрадаў зачытваюцца на агульным зборы ўсяго атраду.

Атрад мае невялічкую бібліотэку, якая здабыта на сродкі коопэратыву. Піонэры вельмі цікавяцца кніжкамі. Але горай справа стаіць з піонэрскімі газэтамі і часопісямі. Дзякуючы адсутнасьці сродкаў, атрад ня мае магчымасьці выпісваць свае газэты.

Піонэр **А. К.**

## Не разумеюць нас.

У нашай вёсцы Арэшкавічы оргнізаваўся піонэрскі атрад. Атрад за некалькі дзён вырас да 22 чалавек. Але нашаму росту мяшаюць маткі. Калі толькі матка даведаецца, што сын яе стаў піонэрам, бяжыць у атрад і накідаецца на павадыра з кулакамі.

Маткі нас не зразумелі. Для іх атрад здаваўся месцам, дзе гадуюцца ўсякія злачынцы.

Справа паступова мяняецца. Піонэры не здаюцца, а растуць усё больш з кожным днём.

Спадзяёмся, што хутка дакажам сваім маткам іх памылкі. Дакажам, што атрад выхоўвае з нас сьвядомых грамадзян Савецкай Беларусі.

Піонэр С. **В. Шмідт.**

## Атрады шырацца.

25 студзеня гэтага году ў нас, на пасёлку Талька, пры дапамазе шэфа, Талькаўскай ячэйкі ЛКСМБ, організаваўся піонэрскі атрад.

Атрад налічвае да 35 дзяцей і разьбіты ўжо на зьвеньня. Кожную нядзелю адбываецца збор атраду.

Ў атрадзе ўжо выбрана рэдакцыйная колегія, якая пачала працу па выданьню сваёй насьценнай газэты.

Піонэрія на вёсцы шырыцца.

Піонэр **А. Рашал.**

## Піонэрскі атрад у Гарбахах.

(Грэскі раён).

— Хлопцы, ужо й я піонэр—хваліцца Алесь Сурвацюк.

— Што?! Там у вас, у Гарбахах, пры школе ёсьць піонэрскі атрад—пытае комсамолец.

— Ёсьць. Наш вучыцель Бельмач організаваў яшчэ з восені.

— А ты ведаеш што гэта за організацыя?

— Не, ня ведаю.

— Чаму?

— Бо ён ніразу з намі ня гутарыў аб гэтым.

— А чаму-ж ты лічыш сябе піонэрам?

— Бо я запісаўся.

— Ага, значыць, у вас піонэры толькі на паперы.

**Комсамолец.**

# КООПЭРАТЫВЫ ШЫРАЦЦА.




## Маем свой коопэратыў.

(м. Капыль, Слуцкае акругі).

Да студзеня м-ца г. г. нашы вучні беларускай сямёхгадоўкі ня мелі вучнёўскага коопэратыву. Усе патрэбныя пісьмовыя рэчы куплялі ў сялянскім коопэратыве або ў прыватнага гандляра. Гэта было вельмі нядобра. Шмат грошай трацілася дарма.

Але хутка вучні зьвярнулі на гэта ўвагу. Быў склікан сход, і ўсе вучні ўхвалілі адчыніць свой коопэратыў, што было і зроблена. Паявы ўзнос для кожнага вучня па 20 к.

Шмат вучняў ужо грошы ўнесьлі. Хутка коопэратыў пачне працаваць.

**Піонэр П. Ж.**

## Адчынілі коопэратыў.

Ад вучняў другіх школ прачулі мы, што ў іх закладваюцца свае коопэратывы. Гэтыя коопэратывы прыносяць вучням вялікую карысьць. Вось мы і задумалі пабудаваць пры сваёй школе вучнёўскі коопэратыў.

Пятага кастрычніка мы склікалі сход, на якім абралі праўленьне коопэратыву. Тут-жа мы далі назву свайму коопэратыву „Прамень". Назначылі паі ў 10 кап.

На першы пачатак мы купілі сшыткаў і другіх школьных рэчаў.

Мы пачалі завязваць сувязь з другімі школьнымі коопэратывамі.

Пасяджэньні праўленьня адбываюцца ў нас кожны тыдзень.

Праз месяц мы змаглі організаваць ужо пры коопэратыве парыкмахерскую. Купілі машынку за пяць рублёў з палавінаю. Для сяброў коопэратыву стрыжка каштуе 5 кап., а для іншых—7 кап.

Праўленьне коопэратыву стараецца яшчэ палепшыць свой коопэратыў. Нядаўна яшчэ організавалася пры коопэратыве пераплётная майстэрня. Потым мы заказалі тры станкі для сшываньня кніжак, прэс, тры лінейкі і тры дошкі. Толькі бяда, што няма дзе дастаць круглага нажа для пераплётнай майстэрні.

Пераплялі ўжо 29, а перашылі 66 кніжак. За тры месяцы існаваньня коопэратыву зварот грошай перавышае за 1000 руб. Прыбылі чыстай маем 23 рублі. За тры месяцы запісалася 198 сяброў коопэратыву. Піонэраў усіх у школе ёсьць 59 чалавек. З іх 18—сябры коопэратыву.

Дарагія таварышы школьнікі і піонэры, будуйце свае дзіцячыя коопэратывы!

Школьнікі і піонэры, запісвайцеся ў сябры дзіцячых коопэратываў!

Старшыня коопэратыву **Ліцьвін Янка.**

## Наш коопэратыў.

У Слуцку нядаўна адчыніўся дзіцячы коопэратыў.

Коопэратыў да апошняга часу працуе слаба. Тавары мала дзешавей, чым у іншых крамах. А ўсё гэта ад таго, што коопэратыў мала налічвае пайшчыкаў.

Піонэры, станем усе пайшчыкамі свайго коопэратыву! Тады і тавары будуць дзешавей, і коопэратыў будзе акуратна працаваць.

Пайшчыкі: **Л. Эпштэйн і**
**С. Мандэль.**





Інв. 1953 г. Д 4 335

# Як пераплятаць кнігі.



У піонэрскай майстэрні.

Кожны чалавек чытае кніжку. Кніжка—найлепшы наш таварыш. Кніжку трэба шанаваць, каб яна не парвалася. Мала прачытаць кніжку і закінуць яе дзенебудзь; кніжку трэба даць прачытаць і другому.

Але кніжка хутка рвецца. Асабліва, калі яна не пераплеценая. А калі так, то ляпей усяго пераплесьці кнігу. Тут нічога страшнага няма.

Пераплятаюцца кнігі дваякім спосабам: машынамі на фабрыках і рукамі дома, што можа зрабіць кожны. Дзеля гэтага толькі трэба зрабіць невялічкую прыладу, якая будзе ў нас назаўсёды—гэта ціскі з нажом. У гэтай прыладзе мы будзем сьціскаць кнігу, каб абрэзаць яе берагі.

Робіцца гэтая прылада наступным парадкам: выгаблёўваем дзьве дошчачкі-цалёўкі шырынёю 27-35 см., а даўжынёю—49-58 см. Адна з гэтых дошчак будзе споднюю, а другая верхняю. Да верхняй трэба на сярэдзіне прымайстраваць з шкурацiка вушка, каб ляпей было яе падымаць. На $4^1/_2$ см. ад берагоў у дошках невялічкім сьвярдзёлкам выкруцім дзіркі. Дошкі гатовы [1]). Цяпер зробім шрубы, якімі і будзем сьціскаць нашы ціскі [2]). Даўжыня шрубы—ад 18 да 27 см.



Верхняя дошак. (ніжняя—такая-ж самая толькі бяз шкурацiка).



Гайка. Шруба.

Таксама зробім у каваля яшчэ й нож, якім будзем адразаць бераг кнігі. Меўшы яе мы можам пераплесьці любую кнігу.

---

[1]) Дзіркі крупяцца у залежнасьці ад шруб: большыя ці меншыя.

[2]) Шруба можа быць з жалеза ці з дзёрава.

Калі кніга тонкая, то справа зусім лёгкая: кнігу мы сшываем дротам або ніткаю в двух месцах карашка. Только сшыць трэба так, каб не закрануць літараў. Далей прыклейваем к берагу карашка па два лісты наабапал, з якіх па аднаму трэба будзе прыклеіць да вокладак. Калі зробім гэта, праводзім карандашом лінію на кніжцы пакуль нам трэба яе адрэзаць. Цяпер закладваем яе ў ціскі так, каб рыска саўпала з берагам дашкі. Засталося толькі сьціснуць кніжку і абрэзаць.

Але гэта ня ўся праца. Яшчэ няма ў нас вокладак. Каб зрабіць вокладкі, трэба ўзяць кардону і выразаць з яго два кускі на вокладкі. Але кускі нашы павіны быць трошка большымі, чым кніга (каб не загібаліся ў кнізе берагі). Цяпер адразаем палатно на карашок (адразаецца палатно на карашок у залежнасьці ад таўшчыні кнігі). Гэту абвёртку мы намазваем мучным, або спэцыяльна прыгатаваным клеям[1]); прыклейваем да яе вокладкі. Разьмер узяць з таўшчыні кнігі. Кладзём вокладку 2 на абвёртку карашка 1—прыкладваем. Потым бяром абвёртку загібаем і кладзём кнігу 3, а на кнігу зноў кладзём другую вокладку, як вокладка 2, і да яе прыклейваем абвёртку 1. Зрабіўшы гэта, мы абклейваем вокладкі белаю папераю. Цяпер уложым абклееную кнігу ў ціскі і—няхай сохне.

Але, калі кніга тоўстая, то пераплятаньне робіцца йнакш. Яна перашываецца. Кожны аркуш перашываецца асобна.

Перашываньне робіцца так: спачатку ў карашку кнігі прарэзваем два раўчукі па шырыні кнігі, каб улезьлі ў іх шнуркі, якія ссучам з нітак. Шнуркі ўкладваюцца ў раўчукі. Пачынаем перашываць з першага аркушу. Зьвязваем нітку за першы шнурок і працягваем іголку з ніткаю праз паперу ў сярэдзіну, потым захватваем ніткаю за першы шнурок з сярэдзіны і за другі. Нітку працягваем на двор праз паперу, вышэй другога шнурка.



1 і 2 шнуркі уложаныя ў кнігу.




1—абвёртка карашка. 2—кускі кардону і 3—кніга.

Зараз-жа ўцягваем іголку праз другі аркуш у сярэдзіну, і зноў захватваем за 1 і другі шнуркі. Такім чынам сшываем усю кніжку. У перашытай кнізе раўнуем берагі і наклейваем вокладкі. **П. Гэрман.**

---

[1]) Спэцыяльны клей робіцца так: бяром частку мучнога клею і частку сталярскага, і зьмешваем.

# Як трэба мыцца.

Зайшоў доктар у атрад піонэраў пагледзець, як яны жывуць. Абхінулі маленькія, жвавыя дзеці свайго госьця і павялі паказваць яму свой куток чырвоных зорак.

Доктар усё ўважна абгледзіў, ласкава пахваліў маленькіх працаўнікоў за тое, што яны так шчыра і ўдала працуюць.

— Добра, добра! дарагія ўнучкі Ільліча!—з пяшчотай у голасе гутарыў госьць.

Дзеці яшчэ цясьней абхінулі яго. Кожнаму хацелася хоць што-небудзь расказаць яму...

— А вось хто з вас расказаў-бы мне аб тым, як вы жывяце ў працягу цэлага дню?—зацікавіўся доктар.

— Як? Ну, зусім проста. Раніцаю ўстаём, ідзём мыцца...—пачаў апавядаць Мікола, самы сьмялейшы.

— Добра. Ну, а вось як вы мыецеся?—і па твары госьця прабегла доўгая ласкавая ўсьмешка.

— Як? вельмі проста...

— Не, ты раскажы па-парадку: бераце рушнічкі, мыла, ідзяце да ўмывальніка—падказваў доктар.

— Дык вы-ж ведаеце!—ня стрымаліся дзеці.

— Так, я мажа трохі й ведаю, але ня ўсё—паправіўся доктар і дадаў:—ну, кажы далей.

— Я сьпярша мыю твар, потым мылам рукі, потым вушы... не... сьпярша зубы, потым... ды я розна мыюся, раз так, другі інакш—замахаў рукамі Мікола.

— А я мыю вушы, потым зубы, потым твар—пахвалілася Марылька.

— Ну, а ты, Алесь, нос свой як прачышчаеш?—запытаўся доктар у маленькага тоўсьценькага хлопчыка.

Усе засьмяяліся. А Алесь засаромеўся і шмаргануў у нос. У яго заўсёды нос быў не ў парадку.

— Чаму гэта вы пытаеце? Навошта гэта вам?—запытала спрытная дзяўчынка Ядзя.

Доктар абвёў усіх ясным поглядам і пачаў:

— Ну, калі вы хочаце ведаць, я раскажу.

— У нашым целе ёсьць маленькія, маленькія дзірачкі, якіх простым вокам ня ўбачыш. Калі мы папрацуем трохі, дык праз дзірачкі пачынае выходзіць пот і сала... Трэба, каб гэтыя дзірачкі не закрываліся брудам, гразьзю. Бо калі пот і сала застануцца ў целе, яны атручваюць нас, пачынаюць пад скураю гніць. Калі гэтыя дзірачкі вымыты, не забруджаны, то праз іх наша цела дыша, мы адчуваем сябе добра, здаровымі.

Часьці цела, якія пакрыты адзежаю, меней брудзяцца, але ўсё-ж такі брудзяцца. Дзеля гэтага трэба мыць ня толькі рукі, твар, вушы, шыю, але і ўсё цела.

Цёплая вада з мылам вельмі добра адмывае пот і ўсякую гразь, затым лепей мыцца цёплай вадой з мылам. Калі цёплай вады няма, то можна мыцца й халоднаю, ад гэтага не прастудзішся.

Дзеці з захапленьнем слухалі паважнага госьця.

— Давайце мы сваім колектывам складзём правілы, якіх вы ў далейшым будзеце прытрымлівацца,—прапанаваў доктар.

— Добра! Добра! Добра!—згадзіліся дзеці.

Праз паўгадзіны справа была кончана. Правілы былі напісаны. Вось яны:

1) Мыцца трэба да пояса без кашулі, абвязаўшы рушнік кругом пояса, каб не замачыць штаны альбо спаднічкі.

2) Сьпярша трэба мыць рукі мылам.

3) Пасьля прачысьціць зубы шчотачкай з парашком альбо проста пальцам з сольлю.

4) Потым намыліць рукі і гэтым мылам намыліць твар, шыю і вушы. Абмыцца. Намыліць мылам грудзі, усе рукі. Абмыцца.

5) Прачысьціць нос, заткнуўшы адну ноздру і сапучы ў другую. Смаркацца праз абедзьве зразу—шкодна, асабліва для слуху.

6) Пасьля гэтага зноў абмыць некалькі разоў твар і ўсё цела, каб нідзе не засталося мыла.

7) Абцерці рушнікам твар, рукі, цела.

8) Прычасаць валасы, абрэзаць ногці, каб пад імі ніколі ня было гразі.

*Увага*: калі мыешся—ня пырскайся на бакі.

— Дайце мы прыклеім іх на сьцяне, каб кожны мог прачытаць—падхапілі дзеці паперку і гуртам кінуліся да сьцяны...

Доктар устаў з крэсла і з радаснай ухмылкай на твары падышоў да дзяцей. Праца пачыналася. Адзін трымаў на далоні чатыры цьвікі, другі трымаў у руках малаток, а трэці прымерваў, прыкладаў да сьцяны вялікі ліст з правіламі

Ф.

# ГАЗЭТА „БЕЛАРУ

## Сем гадоў на варце.

23 лютага 1918 году заснавалася наша рабоча-сялянская Чырвоная армія.

Нарадзілася Чырвоная армія ў вогненнай буры грамадзянскае вайны. Маладая Чырвоная армія выканала ўсё тое, што ёй даручылі рабочыя і сяляне савецкіх рэспублік. Чырвоная армія сваім гэроізмам і самаадвагай перамагла нашых ворагаў. Дзякуючы Чырвонай арміі мы забясьпечаны ад нападаў на нас буржуазіі. Мы цяпер будуем сваё жыцьцё у мірных абставінах.

Але буржуазія ня дрэмле. Яна прагне, імкнецца вынайсьці момант і напасьці на савецкі саюз.

Наша Чырвоная армія заўсёды на варце. Чырвоная армія моцна трымае сьцяг волі на мяжы двух сьветаў—капіталу і комунізму.

Чырвоная армія непераможна. У яе кадры з кожным годам уліваюцца ўсё новыя і новыя—сьвежыя маладыя сілы. Чырвоная армія ведае свае задачы, цьвёрда іх помніць. Чырвоная армія выканае свае задачы: сьцяг Комунізму панясе яна па ўсім сьвеце.

Маладыя піонэры — будучыя чырвонаармейцы — вітаюць 7-ую гадавіну існаваньня чырвонае арміі.

За справу працоўных, чырвонаармеец і піонэр, будзь гатоў!



**Лінейны карабель „Парыская Комуна", над якім комсамол і піонэры Беларусі ўзялі шэфства.**

## Міжнародны жаночы Комуністычны дзень.

15 гадоў таму назад, у 1910 годзе, сабраўся зьезд рабочыхпартый Даніі. На гэты-ж зьезд прыехалі і жанчыны—социялісткі усіх краёў. Сабраліся жанчыны з тэй мэтаю, каб абгаварыць і вырашыць пытаньне аб працы сярод жанчын работніц і сялянак.

На гэтым-жа зьезьдзе прысутнічала і Клара Цэткін. Клара Цэткін (передавая рэволюцыянэрка) жыве зараз у Расіі. На гэтым зьезьдзе Клара Цэткін вынесла прапанову організаваць 8-га сакавіка „Міжнародны Жаночы Дзень". Гэта было патрэбна таму, каб у адзін і той-жа дзень рабочыя й работніцы падумалі аб неабходнасьці прыцягнуць да барацьбы за справу пролетарыяту работніцу і сялянку.

Прапанова Клары Цэткін была ўхвалена партыямі. З гэтага часу штогодна работніцы і сялянкі усіх краёў сьвяткуюць дзень «8 сакавіка».

У нас у Савецкай краіне работніца і сялянка ўжо выйшла на новую сьцежку жыцьця. Жанчына вызвалена ад эксплёотацыі яе панамі і фабрыкантамі. Жанчына сьвядома будуе сумесна з рабочымі і сялянамі новае жыцьцё.

На захадзе і ўва ўсіх буржуазных краінах жанчына яшчэ ў паднявольлі. Справа жанчын савецкае краіны дапамагаць сваім сёстрам вызваліцца ад капіталістычных ланцугоў.

Справа жанчын Савецкае краіны—памагаць Савецкай уладзе ў замацаваньні рэволюцыі.

Няхай жыве сьвядомая работніца і сялянка усіх краёў!

---

## Юныя піонэры, на дапамогу бяспрытульным дзецям!

Юны піонэр заўжды гатоў. Юны піонэр, як гранітная скала. Піонэра няможна заразіць ні хуліганствам, і наагул ён не паддаецца распусьству.

Піонэр дапамагае комсамольцу. Ён дапамагае свайму-ж таварышу, калі той пападае у бяду.

Астацца дзіцяці на вуліцы бяз сродкаў к існаваньню—вялікая бяда. А такіх дзяцей вельмі многа. Напр., паміраюць бацькі, і дзеці малыя апынуліся на вуліцы.

Такія здарэньні у нас часта бываюць. Эпідэміі таксама многа робяць дзяцей бяспрытульнымі. Напр., голад у 1921-22 годзе, які захапіў у свае кастлявыя рукі насельнікаў Паволжжа. Колькі ён даў бяспрытульных!

Савецкая Беларусь зварочваецца да юных піонэраў ад імя бяспрытульнай дзетвары за дапамогаю.

— Піонэры, організуйце самі дзяцей на дапамогу бяспрытульнаму дзіцяці. Гэта ваш першы і вялікі абавязак.

Для такіх дзяцей, аддзел аховы здароўя дзяцей і падросткаў адчыняе лясную школу, ці санаторыю для сухотных дзяцей. Гэтую установу вы, піонэры, павінны падтрымаць. Юныя піонэры, ваша заданьне: запісваць усіх у грамаду „Прыхільнікі дзяцей".

Піонэры, зьбірайце дзетвару, організоўвайце клюбную, а галоўнае, вытворчую работу, для бяспрытульных. Майстэрні працы—гэта самыя лепшыя сродкі у барацьбе з бяспрытульнасьцю. К гэтым сродкам вы й прыступайце,—будзьце павадырамі.

Сьмялей, скарэй папіонэрску: „Будзь гатоў!" Ратуй бяспрытульных дзяцей!

Савецкая Беларусь заве свой авангард—пералавую частку пролетарскай моладзі—комсамол і іх маладзейшых братоў—піонэраў.

**Найхіна.**

# „СКАГА ПІОНЭРА“

## СССР і буржуазія.

### К савецка-японскай згодзе. Перадача Сахаліну С.С.С.Р.

Японская камісія ужо выехала на востраў Сахалін дзеля падрыхтоўкі перадачы Сахаліну савецкай уладзе.

* * *

### Польшча ня можа абыйсьціся бяз нашага рынку.

Міністр Гісьліцкі зазначыў сойму, што Польшча бяз таргоўлі з СССР ня можа ачуняць, і што міністр трговай прамысловасьці Польшчы Кэдрон павінен прызнаць гэта.

### Кулідж рыхтуецца прызнаць С. С. С. Р.

**Нью-Ёрк.** Згодна паведамленьню «Юнайтэд прэс» прэзыдэнт Кулідж абгаварвае пытаньне аб прызнаньні СССР. На днях Кулідж меў нараду з сэнатарам Бора і іншымі прыхільнікамі прызнаньня.

---

## Першы піонэрскі атрад Гілякоў.

Па ніжняй частцы ракі Амура і на паўночным Сахаліне жыве невялічкае племя «палеазіатаў»—гіляк. Гэтае племя ёсьць самае някультурнае і адсталае племя сярод тамтэйшага Амурскага насельніцтва. Сродкі да жыцьця гілякі здабываюць рыбалоўствам і паляваньнем на дзікіх зьвяроў.

У сьнежні месяцы з дзяцей гілякоў (селішчы Чарбах) організаваўся піонэрскі атрад імя т. Леніна. Гэты атрад налічвае 12 дзяцей гілякоў.

Організацыя дзяцей самай адсталай і някультутнай народнасьці мае для нас вялікую цікавасьць. Яна паказвае нам аб дасягненьнях у працы Савецкай улады сярод самых адсталых нацый нашага Саюзу.

Апрача гэтага організацыя піонэраў гілякоў паказвае нам наколькі жыцьцёвая і наколькі пашырана ўжо наша піонэрская праца ў Саюзе ССР.

## Мы маладняк разумеем.

Нядаўна ў нас, у 45 піонэратрадзе беларускага дзіцячага гарадку імя А. Г. Чарвякова, сябра аб'яднаньня „Маладняк“ т. Александровіч зрабіў даклад аб працы і творчасьці маладнякоўцаў. Ім-жа былі прачытаны вершы маладнякоўцаў. Вершы нам вельмі спадабаліся.

Вершы зразумелыя і лёгка успрымаюцца.

Пасьля дакладу і чыткі была прынята рэзолюцыя такога зьместу: „Мы, піонэры, горача вітаем маладнякоўцаў. Маладнякоўцы у сваіх творах даюць нам яскравыя малюнкі сучаснага жыцьця. Творчасьць маладнякоўцаў для нас зразумела“.

Спадзяёмся, што маладнякоўцы і надалей будуць даведвацца нас, бо мы зьмена маладняка.

**Бутрымеева.**

---

## Цэнтральнаму бюро Юных піонэраў Беларусі.

Быхаўскія піонэры у дзень гадавіны свайго існаваньня шлюць Вам свой піонэрскі салют.

Справа Леніна, начатая старой гвардыяй, знаходзіцца у спадзейных руках Ленінскай партыі і нарэзэрваў—Комсамолу і Піонэраў.

Няхай жыве Ленінізм!

Няхай жывуць юныя Ленінцы!

## Наш піонэрскі падарунак.

У Ленінскі тыдзень Полацкія піонэры перадалі свой піонэрскі падарунак Ленінскаму Комуністычнаму Саюзу Моладзі—4-ох піонэраў, найлепшых таварышоў нашай організацыі.

Гэтыя піонэры будуць добрымі комсамольцамі і комунарамі ў барацьбе за справу працоўных.

**Грыш. Баркан.**

## У Цэнтральным бюро юных піонэраў Беларусі.

Распрацаваны плян аб працы дзіцячых корэспондэнтаў. Гурткі дзіцячых корэспондэнтаў павінны закладвацца пры атрадах. Гурткі павінны ўцягваць у працу і корэспондэнтаў ня піонэраў.

---



Бяспрытульныя.

Піонэры! Што вы зрабілі для бяспрытульных сваіх таварышоў?

# Веснавыя нагляданьні над жыцьцём прыроды.

Сакавік—першы месяц вясны. У сакавіку паступова цяплее паветра, растае сьнег, высыхаюць стрэхі, вуліцы, абуджаецца прырода. У гэты час шмат цікавага можна прасачыць у прыродзе: за жыцьцём птушак, дрэў, пагодай, падрыхтоўкай вёскі да вясны.

Каб прасачыць за ўсім гэтым, трэба кожны дзень аб усім запісваць у свой дзеньнік, або каляндар прыроды.

**Над чым можна весьці нагляданьні ў сакавіку.**

1. За адлігамі, марозамі, туманамі, інеем, сонечнымі днямі.
2. Калі і дзе паказваюцца першыя лапінкі голай зямлі.
3. За пачаткам ледаходу.
4. Калі запыліць алешнік і арэшнік, распусьцяцца пучкі дрэў.
5. Калі пачынаюць закладваць расаднік на гародах.
6. Калі ажывуць мухі на паўднёвай старонцы будовы.
7. За зьяўленьнем камароў-таўкуноў.
8. Калі зьяўляюцца бабачкі-крапіўніцы.
9. Калі варона пачынае ламаць гальлё для пабудовы свайго гнязда.
10. Калі прылятаюць з выраю грачы, жаўранкі, шпакі, зяблікі, што яны робяць?
11. Гнездаваньне.

Усё гэта запісвайце у каляндар прыроды. Сачэце штадзённа за птушкамі і іх жыцьцём. Прыслухоўвайцеся да сьпеваў птушак.

У сакавіку прыгатоўваюць для сяўбы гароднае і хлебнае насеньне: яго абчышчаюць, сартыруюць, дасьледуюць усхожасьць.

Зрабеце гэта самі. Вазьмеце ліст прамакальнай паперы, ці газэтнай і раздзялеце яго на 10 клетак у шырыню і даўжыню. Усяго будзе 100 клетак. У кожную клетку палажэце па зярнятку. Гэты лісток палажэце на апілкі, або вату ў талерку, ці іншую пасудзіну. Сачэце, каб апілкі, або вата былі ўвесь час мокрымі. Зьверху зярняты закрыйце паперай і наглядайце праз колькі дзён прарастуць і колькі прарасьце зярнят з сту.

Калі ў першыя 3—4 дні прарасьце больш паловы ўсіх зярнят, то гэта добрае насеньне, а калі мала, то—дрэннае.

Пагоду запісвайце па наступнаму каляндару пагоды:

| Месяц | Лік | Тэмпэратура | Атмосфэрныя асадкі (дождж, сьнег, град) | Вецер | Хмурнасьць або яснасьць | Асаблівыя ўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | |
| | | | | | | |

Калі месяц скончыцца, то зрабеце падлік дзён хмурных, ясных, сьнежных; зрабеце слупкі (дыаграмы) і прысылайце ў часопісь «Беларускі Піонэр». Зьявішчы прыроды запісвайце ў каляндар прыроды.

КАЛЯНДАР ПРЫРОДЫ:

| Чысло | Зьявішча ў прыродзе | Сакавік |
|---|---|---|
| | | |
| | | |

З боку малюнкі зьявішч у прыродзе. Гэты прыгожы каляндар навешвайце на сьцяну вашай клясы.

М. К.

# Нашы гульні.

З гэтага нумару мы пачынаем даваць піонэрскія гульні.

**Будзь гатоў.**

У гульні прымае ўдзел ад зьвяна да атраду.

Усе тыя, якія гуляюць, садзяцца на заслоны або на крэслы ў 2 рады сьпінамі адзін да другога. Адзін з сяброў прабягае кругом іх, датыкаецца чыйго небудзь калена і кажа: „будзь гатоў“ і бяжыць далей у той-жа бок. Той, каму гэта гаворана, бяжыць у другі бока-адваротны. Абодва стараюцца хутчэй абабегчы кругом і сесьці на свабоднае месца. Той, хто спозьніцца, ідзе вадзіць бяжыць і чапляе за калена другога сябра.

*Месца для гульні*—клюб, або вялікая хата.

*Увага.* Гульню можна зрабіць больш складанай тым, што таварышы пры спатканьні павінны прывітацца, перавярнуцца і г. д.

**Прарыў.**

Лік гулякаў ад двух зьвеньняў да атраду.

Абедзьве партыі стаяць ланцугом і моцна трымаюцца за рукі. Адна з партый выклікае каго-небудзь з другой партыі, які з размаху стараецца разарваць ланцуг (рукі) першай партыі. Калі гэта яму ўдаецца зрабіць, ён бярэ ў палон сябра, які стаіць направа ад яго. Той, хто не перарве ланцуга, застаецца ў палоне.

Пасьля гэтага выклікае другая партыя. Узятыя ў палон вядуць гульню, як сябры партыі. Выйграе тая партыя, на якой баку застаецца больш людзей.

*Месца для гульні*: клюбны двор, сад, бульвар.

Усе сябры падзяляюцца на дзьве роўныя па сіле партыі.

**Комсамол.**

Прымае ўдзел атрад.

Усе таварышы сядзяць у Коле і хутка па чарзе называюць нячотныя лікі, замяняючы чотныя лікі складамі: „Ком“, „са“, „мол“, напрыклад: адзін „ком“, тры „со“, пяць „мол“ і г. д. Той, хто памыляецца, выбывае з гульні, а ўсе іншыя працягваюць гульню, пачынаючы лічыць зноў з аднаго. Так гуляюць да тых пор, пакуль не застануцца два апошнія, якія і лічацца выйграўшымі.

*Месца для гульні*: Клюбны пакой.



# ЧЫРВОНЫЯ ЗОРКІ

## Ля камінку.

— Мамка, мамачка, даўно ты расказвала нам казку—раскажы нам цяпер!—прыставаў хлопчык да маткі.

Яго матка Кацярына толькі што ўхадзілася з работаю. Яна цяпер зьбіралася сесьці на ўвесь вечар за пражу.

На камінку ўжо дыміўся смольны корч. З-за вакон ціснулася ў хату сярдзітая, цёмная зіма.

Не хацелася, праўда, матцы брацца за гэту нудную і штодзённую працу. Так ужо надаеў гэты піскл́івы калаўрот! Але прасьці трэба было. Хутка надыходзіла вясна і трэба было ёй кончыць апошнюю кудзелю. А там—распачацца з кроснамі. Бо пакуль іх вытчаш—людзі ў поле выйдуць. А Кацярына адна і гаспадар, і гаспадыня. Дзеці ўсе яшчэ малыя. Дзяцей у Кацярыны чацьвёра: Алесь, Пятрусь, Костусь і Жэнька.

— Праўда, мамка, раскажы казку—не пакідаў свайго Костусь, самы малодшы сын Кацярыны.

Костусю ўсяго 9 гадоў з тыднямі.

— Якую-ж вам, дзеткі мае, расказаць казку?

— Раскажы, мамка, аб панох, як надойчы нам гаварыла—зьвярнулася й Жэнька.

Жэнька старэйшая ад Костуся. Яна ўжо акуратна ходзіць на зборы піонэрскага атраду. Нават заяву падала павадыру атраду, каб і яе залічылі піонэркай.

— Добра, дзеткі, раскажу,—згадзілася матка,—але хіба буду верацяном прасьці.. Калаўрот вельмі-ж скрыгоча.

Кацярына села за прасьніцу. Дзеці прымайстраваліся ўсе блізка ля яе. Усе зьмясьціліся ля камінку.

Матка пачала:

— Ні далёка ні блізка, у нашай краіне жыў сабе, быў сабе пан. Багаты быў пан. Зямлі ў пана—вокам не абкінеш, вёрстамі ня зьмераеш. Слугаў у пана—за дзень не пералічыш. А палацы панскія—залатыя палацы. У сярэдзіне яны срэбрам размалёваны, багатым шоўкам абабітыя.

І сядзеў пан сабе ў сваіх палацах з жонкаю і дзяцьмі. Нічога не рабіў, смачна еў, колькі хацеў спаў. Спраўляў пан кожны вечар багаты баль. Зьяжджаліся да яго на баль другія паны. Гулялі паны; цякло віно ракою ў палацах. Расьпівалі віно паны і купаліся ў ім.

— А адкуль-жа, мамка, пан браў усё гэта? Ён-жа не працаваў ты кажаш,—перабіў Костусь.

— Слухайце, слухайце, не перапыняйце—даведаецеся—адказала матка.

— А звалі гэтага пана Лапам. Вялікі быў пан!... На ўсю акругу быў вядомы. Сам цар яго ведаў. Нават у госьці прыяжджаў да яго.

І былі ў Лапы слугі. Многа было слуг! Слугі жылі ў панскім маёнтку. Слугі несьлі розную працу на сваіх плячох. Усё, што трэба было рабіць, рабілі слугі. І поле аралі, і збажыну сеялі, і касілі, і жалі, і ўсё, усё чыста рабілі слугі.

Камандаваў слугамі ня пан, а паўпанак—аконам. Пан і камандаваць не хацеў слугамі. Бо што турбавацца яму. Сядзі сабе і лічы гатовыя грошы. Еш, пі, сьпі і больш пану ані вуха заваруха.

Цяжка было жыць слугам. Дзень і ноч—праца. У хаце холадна і галодна. Есьці ня мелі чаго. Даваў пан ім тое, што з носа спадала. Даваў толькі столькі сухога хлеба, каб з голаду не памерлі.

— Ты-ж казала, мамка, што ў пана вельмі многа было ўсялякага дабра. Чаму-ж ён сваім слугам—рабочым не даваў?—запыталася Жэнька ў маткі.

— Так, было, дзеткі, у яго, усяго было, але не даваў... Скупы быў пан. Горкі быў пан. Глядзеў пан толькі сябе: Меркаваў ён, каб толькі сам мог піць, гуляць, весяліцца і радавацца жыцьцём. Нічога не клапаціўся аб сваіх рабочых—слугах.

Быдла панскае пасьвіў адзін пастух—Якім.

— Якім?...—наш-жа татка зваўся Якімам, зноў перапыніла Жэнька.

— Так, дзеткі, і татка зваўся Якімам і пастух зваўся Якімам...

Якім з 10-цёх гадоў пачаў пасьвіць панскае быдла. З 10-цёх гадоў застаўся ён сіратою. Бацькі Якіма жылі ў гэтага-ж пана Лапы. Замалада яны памерлі і застаўся Якім сіратою.

Выгадавала Якіма сьцюжа халодная, узрасьціла яго доля плакучая. Бацькам Якіму быў лес цёмны, маткаю—лаза на балоце.

Гэтак гадаваўся Якім.

А як вырас, настаяшчы мпастухом стаў у пана.

Але чагосьці сумным быў заўсёды Якім. Бывала сядзе на пні ў лесе і думае, сумуе. А з вачэй буйным дажджом коцяцца гарачыя сьлёзы. Супакойвала Якіма дудка лазовая, разьвясельвала яго песьня нудная.

А сумаваў Якім не дарэмна. Кожны дзень быў вінаваты перад аконамам. То быдла не напасьвіў, то палосу адтаптаў ганяючы. За ўсё гэта адказваў Якім.

Ды апрача гэтага, новы клопат узваліўся на галаву Якіма. Жонка, дзеці малыя абхінулі. Хлеба няма. Грошай няма. Жыцьцё было горкае і сьлязьлівае. Жонка Якіма таксама працавала ў пана.

Дзеці адны гадаваліся. Пойдуць бацькі на ўвесь дзень, а дзеткі плачуць у хаце, поўзаюць па зямлі.

Але яшчэ горай таго.

Аднаго разу прыгнаў Якім каровы з поля ды не далічыўся аднэй. Засталася яна ў лесе і там прапала... Ваўкі зьелі...

Даведаўся пан Лапа аб гэтым і выгнаў Якіма вон з свайго маёнтку.

Пашоў Якім у сьвет долі шукаць, а жонка з дзяцьмі жабраваць.

— Мамка, дык гэта-ж усёроўна, як мы жабравалі, а таты ня было з намі! перабіў самы старэйшы сын Кацярыны Алесь.

— Так, мае саколікі, усёроўна як мы...

Беглі дні, беглі нядзелі, беглі гады, а Якіма, як ня чуваць так і ня чуваць.

Але супыніліся бегчы гады, прыехаў Якім у маёнтак панскі. Прыехаў ён з вялікім войскам, з чырвоным войскам.

Як зачуў пан аб Якіму, аб войску чырвоным, кінуў свой палац ды-гайда адгэтуль.

А Якім пачаў шукаць сваіх дзяцей, сваю жонку. Знайшоў іх і прывёў у панскія палацы. Сам-жа паехаў далей. Паехаў зьнішчаць усіх паноў з белага сьвету.

Але не аб'ехаў усяго сьвету Якім з чырвоным войскам. Падламалі паны крыльля Якіму, ранілі Якіма... Яшчэ дамоў у свой маёнтак прыехаў і тут сканаў на вачох у дзяцей і жонкі.

Дзецям сказаў перад сьмерцю:

— Я ня скончыў яшчэ з усімі панамі... Я ўтаміўся... Расьцеце, дзеткі, і заступайце мой шлях. Дакончце ўсіх паноў на ўсім сьвеце, бо яны скончаць усіх нас бедных.

— Братка Алесь, і наш-жа тата гэтак сама прыехаў з бойкі падстрэляным і сканаў. Я-ж помню тату, як цяпер з гэтае казкі — скрозь дрыжыкі заляпатаў Пятрусь свайму брату і ўсім.

— Так, дзеткі, так, саколікі, быў гэткім наш бацька!.

І ўсе дзеці ўпіліся вачыма ў матчын твар. Матка перастала сукаць кужэльную нітачку і пачала папраўляць смалякі.

Грудзі ад уздыхаў у дзяцей узьнімаліся высока. На сэрцы кіпела варам, а праз гэты вар выплывалі бурбалкамі словы:

— Мы дакончым справу бацькі.

Адзін толькі Костусь аб усім гэтым нічога ня ведаў. Сядзеў ён каля камінку і паварушваў на агні смаліну.

**А. Я.**

о о о

## Нашы поэты аб Леніну.

### ІЛЬЛІЧУ.

Ты памёр, ты памёр, наш настаўнік,
Найміленшы Уладзімір Ільліч...
Але справа твая засталася
І ніколі ня згіне твой кліч!
Піонэрам, унукам сваім,
Пакінуў ты многа запаветаў.
Барацьбу з капіталам мы скончым,
Барацьбу распачатую дзедам!

**А. Хмарка.**
(Вучань Грозаўскай сямёхгадоўкі).

Помні, рабочы, знай, селянін,
Леніна сьветлыя вочы.
Помні, як бацьку старога свайго,
Ён быў настаўнік рабочых.
Ціха сканаў ён на слаўным пасту...
Дзень тэй пары глядзеў ноччу...
Нам не забыцца ніколі цябе,
Ты быў настаўнік рабочых.

**М. Рыбіцкая.**



# Людзі—у паветры.

Чалавечая гісторыя кажа нам, што даўно, даўно ўжо ў людзей зьявілася думка, каб падняцца ў паветра.

Шмат ёсьць лягендаў, дзе апавядаецца аб усіх гэтых марах—падняцца ўгору і пажыць у паветры. І людзі сур'ёзна задумаліся над гэтым пытаньнем.

Людзі заўважылі, што нагрэтае паветра падымаецца ўгору. Тады яны й дадумаліся, што калі ўзяць з паперы, ці іншага лёгкага матар'ялу, як, напр., шоўку (бо ён легкі і моцны) і зьляпіць шар, набіць яго цёплаю паветраю, то гэты шар павінен падняцца ўгору.

Але гэтага мала. Важным зьяўляецца тое, як падняцца чалавеку з гэтым шарам.

Дадумаліся й да гэтага.



Людзі прывязалі да свайго шара кошык, на якім можна было сесьці і ўзьняцца ўгору. Гэта былі самалёты, якія ў той час называліся „паветранымі шарамі“. Але навука й тэхніка шпаркімі крокамі йшла наперад. І хутка такі шар,з лёгкаю паветраю, стаў не здавальняць чалавека. Людзі тады сталі думаць аб тым, каб як-небудзь прымайстраваць крыльля да свайго самалёту—зрабіць нейкую машыну, каб чалавек мог кіраваць ёю па свайму жаданьню.

Гэтая думка надта захапіла людзей. І яна хутка была зьдзейсьнена чалавекам. Чалавек зрабіў такую машыну,—сапраўдны самалёт.

Гэтая машына з крыльлямі хутка стала служанкаю чалавека. Асабліва ў часе вайны. І тут сапраўднае дзіва: вайна з зямлі пераходзіць у паветра.

Усе фабрыкі ў часе вайны сталі як найбольш рабіць самалётаў. У 1914—18 гадох іх найбольш выпушчалі фабрыкі. Гісторыя кажа, што гэта былі гады росквіту самалётаў. Сямыя лепшыя фабрыкі па выпрацоўцы самалётаў лічацца Нямецкія, Голяндзкія, Француcкія і Ангельскія.

У Нямеччыне рабілі самалёты ў 260 конскіх сіл. Хуткасьць такога самалёту—170 кілёмэтраў, прыблізна каля 155 вёрст у гадзіну. Падымаў цяжару гэты самалёт больш за 600 кілёграмаў (37 пудоў).



Другая фабрыка Нямеччыны рабіла самалёты ў 520-550 конскіх сіл*)—амаль самая лепшая машына па якасьці, вазе й мацунку. У Ангельшчыне былі самалёты 4-х маторныя ў 450 конскіх сіл кожны матор. Падымаў гэты самалёт цяжару 7500 кгр. (450 пудоў).

Цяпер па самалётнай справе ў Эўропе стаіць на першым месцы Францыя. Яна мае самыя моцныя самалёты і колькасьць іх дасягае да 3.500 штук.

Асабліва шмат там самалётаў, якія скідаюць гранаты.

### Газ.

У часы імпэрыялістычнай вайны газ наводзіў страх на ворагаў. І сапраўды, гэта нешта страшнае, бо досыць было чалавеку ўдыхнуць гэтага газу, як ён у страшэнных муках паміраў.

У 1915 годзе 22 красавіка першы раз пусьцілі гэты страшэнны газ на заходнім фронце ў раёне Імпра.

Да барацьбы з гэтым газам ні адзін з гэнэральных штабаў ня быў падрыхтаваным. Пасьля пяцёхгадзіннай бомбадыроўкі была заўважана хмара жоўтага дыму, якая была выпушчана з нямецкіх акопаў, паміж Лангемаркам і Біксшутоло. Гэта быў хлёрысты газ.

Дзейнасьць газаў была такая, што ўся лінія, занятая францускаю дывізіяй, апынулася ў сьмяр-цельным становішчы.

Газ, якім карысталіся ў час вайны, называецца хлёрам. Усё, што толькі ён сустрэне на сваім шляху—зьнішчыць у некалькі хвілін. Расьліны ўміраюць, вада ператвараецца ў жыжку хлёрыстага вадароду.

Але газаў ёсьць некалькі сартоў. Дзейнасьць іх розная: адны дзейнічаюць на лёгкія—хлёр, другія на скуру—іпрыт (ён выклікае пад скураю нарывы), трэція дзейнічаюць на вочы—сярчаны газ і шмат іншых.

Каб не задушыцца гэтым газам, людзі надзяюць працівагазныя скрынкі, у якіх ёсьць тоўчаны вугаль. Да скрынкі прымацоўваецца рызінавы шлем, які надзяецца шчыльна на галаву. Процій вачэй у рызіне зроблены акуляры.

Форма гэтых працівагазных скрынак бывае розная.

**П. Гэрман.**



*) Конскаю сілаю лічаць такую сілу, якая затрачваецца на падняцьце 4 п. 25 ф. на вышыню 1 мэтру (1,4 арш.) у адну хвіліну.




## Жарты, задачы і загадкі.

### Дзесяць.

— Яська, колькі ў цябе пальцаў на руцэ?—пытаецца настаўнік у хлопчыка.

— Дзесяць— адказвае той.

— Чаму?

— Бо мне мама казала, што дзесяць.

### Манограма № 1.

Дз. Міхалкі.

Блізка ў кожнай хаце есьць з К.  
З «Л» фунта толькі частка,  
З «П» ён часта пры рабоце льлецца,  
З «Р» сьмяецца.

### Задача літараў (у форме зоркі)

Гэрман.




Дадзеныя літары ў клетках зоркі трэба расставіць так, каб прачытаць 4 словы:

1—2. Слоўцам назавом птушак,

3. Слоўцам назавом грыб,

4. Слоўцам у лесе жыве і ўночы людзей пужае.

### Рэбус.



Адгадай, што тут напісана.

### Задача літараў № 1.

Дз. Міхалкі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | А | | А | |
| Б | Г | Е | І | І |
| | К | | Л | |
| Л | П | С | С | Т |
| | У | | Ц | |

Перастаўце літары ў клетках фігуры так, каб можна было прачытаць (зьлева направа і зьверху ўніз) 4 словы, якія азначаюць:

1. Хатня-гаспадарчую рэч;
2. Музыкальны струмант;
3. Житні выраб;
4. Знойдзем сярод каменьняў.

### Шарада № 1.

Слова першае адразу.  
Выяўляе тып заразы, абдзіралы, жывадзёра—Здагадаешся мо‘ скора?!  
І для большага паказу,  
Дадавай гук «У» адразу.  
Потым будзе яшчэ слова (разгадай, адно, талкова) —  
Камандыра ў Беларусі  
Будзе назва. Знаеш, мусіць?...  
А ўсё разам прачытаеш,  
Назву птушкі атрымаеш.

Словы П. Труса

## Будзь гатовым, піонэр!

Муз. В. Черняко̆скага.

Павольна

За шу мі галь лем са гонь нік, за сьпя вай быль кік ла за! што мы воль ны я ся

гонь ня; во ля вы рась ці ла нас

## Песьня „Чырвоных зорак"

Муз. В. Черняко̆скага.

Жвава.

Ста ла во семь мне га доў, пі о нэ рам быць га тоў!

Ма кі, ма кі ма кі, ма ко вач кі, чыр во ны я

1 раз

мы зо рач кі

2 раз.

мы зо рач кі

Тэкст да нотаў глядзі на другой стар.

## Будзь гатовым піонэр.

Зашумі гальлём, сасоньнік,
Засьпявай, быльнёх-лаза!—
Што мы вольныя сягоньня,
Воля вырасьціла нас.

Загудзі паўстаньнем, вецер;
Звонам крыгамі вясны!—
Што ня паншчыны мы дзеці—
Рэволюцыі сыны.

Хоць нас гора гадавала,
Гора гушкала калбель.—
Але сёньня нас нямала...
Нас магутная арцель.

Мы прастору арляняты,
З намі волі штандары.
Грудзі Леніным узьняты,
Сэрца помстаю гарыць.

Нас вучыў пакойны Ленін:
(Словы помняцца й цяпер)
За працоўных вызваленьня
Будзь гатовым піонэр!..

**П. Трус.**

## Песьня „Чырвоных Зорак“.

Стала восем мне гадоў,—
Піонэрам быць гатоў!
Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы зорачкі.
Піонэрскі наш атрад
Для усіх дзяцей прыклад.
Макі, макі... і г. д.
Піонэр заўжды гатоў
Падмяніць сваіх бацькоў.
Макі, макі...
Будзем сябе рыхтаваць,
Піонэрамі каб стаць.
Макі, макі...
Піонэры малайцы—
Нашы родныя браты.
Макі, макі, маковачкі,
Чырвоныя мы зорачкі.



Выданьне: **НКА БССР**
Адказны рэдактар: **Рэдколегія.**

# ПОШТА.

**Запытаньне.** Якім чынам распарвацъ лыжы і як доўга?

**Адказ.** Трэба завярнуць лыжу ў мокрыя анучы таўшчынёю ў 20—15 см. і ўлажыць у печ. Печ павінна быць добра напалянай. Жар трэба разгарнуць на бакі.

У печы лыжа павінна пралежаць 2—3 гадзіны. Але, каб не загарэлася наша лыжа, анучы трэба некалькі разоў паліваць вадою.

**Запытаньне.** Як трэба часаць плашку для лыжы — з двух бакоў, ці з таго толькі боку, па якім расколата плашка?

**Адказ.** Часаць трэба з двух бакоў. Расколаты бок трэба абгабляваць. Гэты бок будзе верхам лыжы. Другі бок трэба счасаць да патрэбнай нам таўшчыні (у артыкуле ўказана таўшчыня). Гэты бок будзе верхам лыжы.

**Запытаньне.** Як доўга павінны знаходзіцца лыжы ў станку?

**Адказ.** Пакуль ня высахнуць. Звычайна 2—3 тыдні.

**Запытаньне.** Ці можна пісаць у „Беларускі Піонэр“ на расійскай мове?

**Адказ:** Можна. Калі вы яшчэ ня ведаеце беларускай, пішэце на тэй мове, якую ведаеце. Рэдакцыя пераложыць сама.

**Запытаньне.** Ці носяць піонэры зімою гальштукі?

**Адказ.** Чаму-ж не.

**Запытаньне.** Кім кіруюцца ў працы школьныя форпосты?

**Адказ.** Школьны форпост складаецца з піонэраў аднаго або некалькіх атрадаў (калі гэта ў горадзе). Кіруецца ён гэтымі атрадамі, або атрадам.

**Запытаньне.** Ці можа сэкратар ячэйкі ўказваць павадыру атраду, як весьці працу ў атрадзе?

**Адказ.** Атрадам кіруе ячэйка, пры якой атрад знаходзіцца. Зразумела, што сэкратар можа парадзіць і ўказаць павадыру, як трэба весьці працу. Калі-ж бывае пытаньне спрэчным, то абгаварваецца на сходзе ячэйкі сумесна з прадстаўнікамі ад атраду.

**Запытаньне.** Ці можа гарадзкі піонэр быць дапісчыкам часопісі „Беларускага Піонэра?“

**Адказ.** Зразумела, можа. „Беларускі Піонэр“ з вялікаю ахвотаю зьмесьціць вашы дописы.

**І. Кміту.** Пішэце лепш усяго аб жыцьці і працы вашай школы.

**В. Кавалёву.** „Радасьць буржуеў“ ня пойдзе. Напісана слабавата. Але гэта нічога, прабуйце пісаць больш.

**Зарамбоўскаму.** „Стары Сьцяпан“ не падыходзіць для нашай часопісі. Напісана, праўда, добра, але не для дзяцей.

**Краснашчоку В. Я.** Колектыўны твор вашых вучняў „Вясна людзям“ (п'еска) будзе разгледжана на редколегіі і, калі падыдзе, надрукуем у чарговым нумары.

**Піонэру Бадову.** Допіс „Вось дык настаўніца“ скарыстаць нельга, бо невядомы рэдакцыі ваш адрас. Прышлеце свой адрас, тады допіс будзе надрукаваны

**Яфімчыку.** Задачкі ня пойдуць. Вы бераце тыя задачкі, якія ўжо зусім устарэлі і ўсім вядомы. Давайце сьвежыя і цікавыя задачкі.

**Агейчыку.** Частку вашых допісаў скарыстаем. Пішэце больш. Пішэце аб жыцьці і працы вашай школы, аб атрадзе.

**Янку Гаротнаму.** Верш „Касьба“ друкаваць ня будзем, слабы. Пішэце больш. У далейшым старайцеся больш апрацоўваць свае вершы. У вас ня вытрыманы разьмер, рыфма; сустракаюцца неяснасьці.

Напр.:

Дзеці на сене гулялі,
Як весела ім было там
Глядзець, як усе працавалі,
Бо некалі-ж прыдзецца ім.

Уважна прыглядзецеся спачатку, як пішуцца вершы, пачытайце больш вершаў і тады пробуйце.

Усім іншым дапісчыкам адказы дадом у чарговым нумары.



# Зьмест:



Галоўліт № 7756. (Друк. у ліку 4500 экз.)

2-я Дзярж. друк. Д. В. Б. № 2325.

Цана 30 к.




# Да гадавіны Чырвонае Арміі.

Кастрычнікавая рэволюцыя ў 1917 годзе канчаткова зьніштожыла ўладу буржуазную і зацьвердзіла ўладу працоўных—рабочых і сялян.

Разам з уладаю працоўныя забралі ад буржуазіі фабрыкі, заводы, лясы, зямлю і інш. маемасьць, якая павінна належаць усім працоўным, а ня жменьцы паноў і капіталістых.

Буржуазія дабраахвотна аддаць народную маемасьць і ўладу працоўным не хацела. Яе трэба было прымусіць, дзеля чаго неабходна было мець войска.

Адкуль гэтае войска было ўзяць? Войска організавалася на фабрыках і заводах з рабочых і матросаў, салдат старога царскага войска. Гэтыя салдаты распазналі той запраўдны шлях, па якому яны павінны былі ісьці.

Вось гэтыя невялікія атрады рабочых, так званая Чырвоная гвардыя, і пачалі абараняць ад буржуазіі нашу рабоча-сялянскую ўладу, якая толькі што нарадзілася.

Тут буржуазія ўсімі мерамі пачала змагацца з Чырвонаю гвардыяй. Ей хацелася зьнішчыць уладу рабочых і сялян, вярнуць фабрыкі, заводы, лясы і зямлю. Яна пачала організоўвацца і распачала грамадзянскую вайну.

На дапамогу нашай буржуазіі пашла замежная буржуазія, бо й ёй таксама ня менш закалола ў вочы ад савецкай улады.

Буржуазія пачала прысылаць на нашыя межы свае войскі. Чырвонай гвардыі змагацца з гэтымі войскамі было цяжка, бо яна была мала адукавана ў вайсковай справе. Для барацьбы з буржуазіяй, для аховы савецкай улады патрэбна было добра адукаванае, добра ўзброенае войска. Для гэтага ў 1918 годзе 23 лютага па ініцыятыве Ул. І Леніна рабоча-сялянскаю ўладай быў абвешчаны дакрэт аб стварэньні Чырвонае Арміі, у якой павінны адбываць вайсковую службу ўсе працоўныя—рабочыя й сяляне.

Але ня гледзячы на ўсе труднасьці Чырвоная Армія зьнішчыла ўсе контррэволюцыйныя банды буржуазіі з яе наймітамі гэнэраламі: Калчаком, Дзянікіным, Юдзенічам, Каледзіным, Дутавым, Карнілавым, Пятлюрам і іншымі.

Цяпер Чырвоная Армія займаецца вучобаю і ахоўвае межы нашае рабоча-сялянскае ўлады Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія —гэта моцны кулак, якога страшыцца сусьветная буржуазія, дзякуючы чаму яны нас цяпер ужо сталі прызнаваць, прызнае і далей будзе прызнаваць і лічыцца з намі, як з самастойнаю дзяржаваю рабочых і сялян.

Чырвоная Армія—гэта дзіця сусьветнае рэволюцыі, дзіця ўсіх працоўных — рабочых і сялян.

Кожны з нас павінен памагаць у будаўніцтве Чырвонай Арміі, клапаціцца аб ёй і ўмацоўваць яе шэрагі. Гэтым самым мы замацоўваем рабоча-сялянскую ўладу ўва ўсім сьвеце.

Няхай жыве сёмая гадавіна Чырвонае Арміі!

Няхай жыве комуністычная партыя—кіраўнік чырвонае Арміі!

**М. Дзярэча.**

